## ЗМЕСТ


**СІТУАЦЫЯ Ў СФЕРЫ СМІ Ў 2016 г. (АГЛЯД)** .......... 3

**ЗМЕНЫ Ў ЗАКАНАДАЎСТВЕ** .......................................... 5

**ПАРУШЭННІ ПРАВОЎ СМІ І ЖУРНАЛІСТАЎ, КАНФЛІКТЫ Ў СФЕРЫ СМІ** .......................................... 8

**Крымінальныя справы** .......................................................... 8

**Іншыя судовыя справы (акрамя адміністрацыйнага пераследу)** .......................................................... 10

**Затрыманні журналістаў, адміністрацыйны пераслед** ............ 12

**Фізічныя замахі ў адносінах да журналістаў** ......................... 18

**Выняцце, пашкоджанне, канфіскацыя тэхнікі** ....................... 20

**Папярэджанні Міністэрства інфармацыі** ................................ 20

**Абмежаванні свабоды дзейнасці ў Інтэрнэце** ........................ 21

**Парушэнні, звязаныя з доступам да інфармацыі** .................... 22

**Парушэнні падчас выбараў у Палату прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь** ........................... 25

**Іншыя формы ціску і парушэння правоў журналістаў** ............. 27

**ЭКАНАМІЧНАЯ ПАЛІТЫКА Ў СФЕРЫ СМІ** .................... 29

# СІТУАЦЫЯ Ў СФЕРЫ СМІ Ў 2016 г. (АГЛЯД)

Асноўным фактарам, які ўплываў на сітуацыю са СМІ ў Беларусі ў 2016 г., сталі выбары ў Палату прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь. Яны адбыліся ў верасні 2016 г. на фоне пагаршэння эканамічнай сітуацыі і складанага замежнапалітычнага становішча. Беларускія ўлады імкнуліся атрымаць станоўчую ацэнку выбараў з боку міжнародных структур, і з набліжэннем выбарчай кампаніі і ў яе ходзе непасрэдныя рэпрэсіі ў дачыненні журналістаў паменшыліся. Аднак на сістэмным узроўні сітуацыя да лепшага не змянілася, а заканадаўства ў сферы рэгулявання дзейнасці СМІ толькі ўзмацнілася жорсткасць. Гэта паказвае сітуатыўны характар і няўстойлівасць некаторых станоўчых зменаў у сферы СМІ ў 2016 г.

Пацверджанне гэтаму - пераслед беларускіх журналістаў-фрылансераў за супрацоўніцтва з замежнымі СМІ без акрэдытацыі. Упершыню практыку прыцягнення іх да адказнасці за "парушэнне парадку вырабу і распаўсюду прадукцыі СМІ" (ч. 2 арт. 22.9 Кодэкса аб адміністратыўнай адказнасці) беларускія ўлады выкарыстоўвалі ў красавіку 2014 г. Па жнівень 2015 г. суды 68 раз штрафавалі беларускіх журналістаў за матэрыялы, якія з'яўляліся ў замежных СМІ. Ва ўсіх выпадках падставай для прыцягнення іх да адказнасці быў не змест іх матэрыялаў, а сам факт іх з'яўлення ў замежных медыя. У жніўні 2015 г., напярэдадні прэзідэнцкіх выбараў, Аляксандр Лукашэнка даў абяцанне разабрацца з сітуацыяй, пасля чаго пераслед журналістаў за супрацоўніцтва з замежнымі СМІ часова спыніўся. Аднак са студзеня 2016 г. гэта практыка аднавілася ў Гомельскай вобласці. За першыя чатыры месяцы 2016 г. суды 10 разоў прыцягнулі да адміністрацыйнай адказнасці гомельскіх журналістаў Кастуся Жукоўскага і Ларысу Шчыракову за супрацоўніцтва з тэлеканалам “Белсат” (Польшча), аштрафаваўшы іх на агульную суму, эквівалентную 3500 еўра.  У маі 2016 г., з набліжэннем выбараў у Палату прадстаўнікоў, пераслед журналістаў-фрылансераў ізноў прыпыніўся і да канца 2016 г. новых пратаколаў аб адміністрацыйным правапарушэнні за супрацоўніцтва з замежнымі СМІ не складалася. Аднак у 2017-м сітуацыя зноў змянілася да горшага.

Сярод станоўчых зменаў у сферы СМІ ў 2016 г. (якія, на жаль, таксама аказаліся няўстойлівымі) ГА "Беларуская асацыяцыя журналістаў" зафіксавала памяншэнне выпадкаў затрыманняў журналістаў: 13 затрыманняў супраць 19 у 2015 г. (і 167-мі ў крызісным 2011 г.). З іншага боку, у 2016 г. засталіся беспакаранымі выпадкі ўжывання міліцыяй фізічнага гвалту ў дачыненні журналістаў. Найбольш рэзанансным з іх стала затрыманне і збіццё ў будынку суда журналіста папулярнага інтэрнэт-партала tut.by Паўла Дабравольскага. У той жа дзень П. Дабравольскі быў прыцягнуты да адміністрацыйнай адказнасці і аштрафаваны за супраціў супрацоўнікам міліцыі і хуліганства. Ён афіцыйна зафіксаваў збіццё і звярнуўся з заявай у Следчы камітэт, аднак той адмовіў ва ўзбуджэнні крымінальнай справы супраць супрацоўнікаў міліцыі.

Сур'ёзную заклапочанасць у 2016 г. выклікалі арышты і крымінальны пераслед грамадзян Беларусь за публікацыі ў інтэрнэце. На працягу года чацвёра блогераў і калумністаў СМІ былі арыштаваныя ў сувязі з распачынаннем у дачыненні да іх крымінальных спраў па абвінавачванні ў распальванні варожасці па прыкмеце расавай, нацыянальнай, рэлігійнай, моўнай ці іншай сацыяльнай прыналежнасці (арт. 130 Крымінальнага кодэкса РБ). Заснавальнік сайта 1863x.com Эдуард Пальчыс быў асуджаны 26 кастрычніка 2016 г. да 1 года і 9 месяцаў абмежавання волі без кірунку ў выпраўленчую ўстанову і вызвалены ў зале суда. Да гэтага часу ён правёў пад вартай каля 10 месяцаў. Сайт 1863.com быў створаны каля двух гадоў таму і рэзка крытыкаваў "рускі свет" і расійскія ўлады.

У снежні 2016 г., былі ўзятыя пад варту Юрый Паўлавец, Дзмітрый Алімкін і Сяргей Шыпценка, матэрыялы якіх на расійскіх сайтах Regnum, Lenta.ru, EADaily ўтрымлівалі крытыку беларускай дзяржаўнасці і, на думку беларускіх улад, маглі пасеяць варажнечу паміж народамі Расіі і Беларусі. Узбуджэнне крымінальных спраў было ініцыявана Міністэрствам інфармацыі на падставе заключэння Нацыянальнай экспертнай камісіі па экстрэмізме (дзеючай пры Мінінфарме), у якім сцвярджалася, што некаторыя артыкулы аўтараў могуць утрымліваць распальванне нацыянальнай нянавісці ці варажнечы.

Міністэрства інфармацыі працягвала практыку пазасудовых санкцый супраць сродкаў масавай інфармацыі. 8 друкаваных СМІ і 8 інтэрнэт-рэсурсаў атрымалі папярэджанні. Паколькі атрыманне двух папярэджанняў цягам года можа стаць падставай для спынення выпуску СМІ, такія меры маюць сур'ёзны "астуджальны эфект". Былі таксама заблакаваныя 47 сайтаў (21 - за распаўсюд інфармацыі, накіраванай на рэалізацыю наркатычных сродкаў, 13 - за распаўсюд экстрэмісцкіх матэрыялаў, 11 - за неналежную рэкламу, 2 - за прапаганду парнаграфіі, гвалту і жорсткасці). Пасля доступ да аднаго сайта быў адноўлены.

Працягвалася палітыка дыскрымінацыі шэрагу незалежных СМІ дзяржаўнымі сістэмамі РУП "Белпошта" і РУП "Саюздрук", якія дамінуюць на рынку распаўсюду СМІ па падпісцы і ў розніцу. Праблемы з распаўсюдам незалежных друкаваных СМІ ў дзяржаўных сетках паўсталі напярэдадні прэзідэнцкай выбарчай кампаніі 2006 г. Тады "Белпошта" адмовілася ўключаць у падпісныя каталогі, а прадпрыемствы "Саюздрука" - прадаваць праз газетныя шапікі каля 20 незалежных грамадска-палітычных газет. З гэтай прычыны шматлікія з недзяржаўных друкаваных выданняў перасталі выходзіць. У 2016 г. з цяжкасцямі пры распаўсюдзе працягвалі сутыкацца не менш васьмі, якія ўтрымаліся на рынку зарэгістраваных газет сацыяльна-палітычнай тэматыкі. У той жа час падпіска на дзяржаўную прэсу праводзілася з выкарыстаннем адміністрацыйнага рэсурсу, працягвалася і бюджэтнае фінансаванне дзяржаўных СМІ. Так, рэспубліканскім бюджэтам на 2017 г. прадугледжана выдзяленне каля 97 666 846,0 рублёў (каля 46,2 млн еўра) на фінансаванне дзяржаўных медыя. Гэта прыкладна на 1,4 млн еўра больш, чым у 2016 г. Фінансаванне выдзяляецца ўрадам на пазаконкурснай і непразрыстай аснове.

# ЗМЕНЫ Ў ЗАКАНАДАЎСТВЕ

**11 мая 2016 г.** прыняты **Закон Рэспублікі Беларусь *"Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у некаторыя законы Рэспублікі Беларусь»*.**

А) **Закон Рэспублікі Беларусь *"Аб правах дзіцяці"*** дапоўнены **главой 4-1** «Абарона дзяцей ад інфармацыі, якая наносіць шкоду іх здароўю і развіццю». У ёй прадугледжваецца права дзяцей на абарону ад інфармацыі, якая наносіць шкоду іх здароўю і развіццю (арт. 37-1). Да такой належыць інфармацыя, якая:

- выклікае жаданне ўжываць алкагольныя, слабаалкагольныя напоі, піва, спажываць наркатычныя сродкі, псіхатропныя рэчывы, іх аналагі, таксічныя або іншыя адурманьваючыя рэчывы, тытунёвыя вырабы;
- заахвочвае да здзяйснення злачынства ці іншага грамадска небяспечнага дзеяння, у тым ліку да заняткаў прастытуцыяй, жабраваннем, бадзяжніцтвам, да ўдзелу ў азартных гульнях, здзяйснення дзеянняў, звязаных з вырабам, распаўсюдам парнаграфічных матэрыялаў або прадметаў парнаграфічнага характару;
- станоўча ацэньвае злачынства ці ідэалізуе злачынцаў; заахвочвае паводзіны, якія ўшчамляюць чалавечую годнасць, у тым ліку здзяйсненне гвалтоўных дзеянняў у дачыненні да людзей або жывёлаў;
- адлюстроўвае здзекі над чалавекам ці групай людзей або іх прыніжэнні ў сувязі з этнічным паходжаннем, нацыянальнай, расавай, рэлігійнай, моўнай, полавай прыналежнасцю, перакананнямі або поглядамі, сацыяльным становішчам, захворваннем;
- заахвочвае або станоўча ацэньвае жорсткасць, фізічны, псіхічны, сэксуальны гвалт, сэксуальную эксплуатацыю, сэксуальныя стасункі з удзелам дзяцей;
- заахвочвае да нанясення цялесных пашкоджанняў або самагубства, апісвае сродкі або акалічнасці самагубства;
- змяшчае методыкі альбо іншыя матэрыялы пра спосабы вырабу небяспечных для жыцця і здароўя людзей прадметаў і іх выкарыстання;
- заахвочвае звычкі, якія супярэчаць фармаванню здаровага ладу жыцця;
- змяшчае нецэнзурныя словы і выразы;
- дыскрэдытуе інстытут сям'і і шлюбна-сямейныя адносіны;
- мае застрашальны характар, у тым ліку ў выглядзе малюнка або апісання ў прыніжаючай чалавечую годнасць форме смерці, няшчаснага выпадку, аварыі, катастрофы, захворвання і (або) іх наступстваў;
- змяшчае парнаграфічныя матэрыялы і (або) эротыку.

Забараняецца распаўсюд інфармацыйнай прадукцыі і, сярод іншага, прадукцыі сродкаў масавай інфармацыі, друкаваных выданняў, без прысваення знака ўзроставай катэгорыі ў выглядзе гукавога і (або) візуальнага папярэджання, што ўказваюць на ўзроставую катэгорыю дзяцей, сярод якіх дапускаецца распаўсюд інфармацыйнай прадукцыі:

"0+" – без узроставых абмежаванняў (універсальная);

"6+" – прызначаная для асобаў, якія дасягнулі 6 гадоў;

"12+" – прызначаная для асобаў, якія дасягнулі 12 гадоў;

"16+" – прызначана для асобаў, якія дасягнулі 16 гадоў;

"18+" – прызначаная для асобаў, якія дасягнулі 18 гадоў (арт. 37-2).

Знак узроставай катэгорыі прысвойваецца юрыдычнымі асобамі, індывідуальнымі прадпрымальнікамі, якія ажыццяўляюць дзейнасць па вытворчасці інфармацыйнай прадукцыі.

Пры Урадзе Рэспублікі Беларусь ствараецца Грамадска-кансультатыўны савет па абароне дзяцей ад інфармацыі, што наносіць шкоду іх здароўю і развіццю; яго рашэнні носяць рэкамендацыйны характар (арт. 37-3).

Б) Унесеныя дапаўненні ў **Закон Рэспублікі Беларусь *"Аб сродках масавай інфармацыі"*.** У прыватнасці, **арт. 17** дапоўнены пунктамі 5-1 і 5-2 наступнага зместу:

«5-1. Да пачатку распаўсюду прадукцыі сродку масавай інфармацыі юрыдычная асоба, на якую ўскладаюцца функцыі рэдакцыі сродку масавай інфармацыі, абавязаная ў парадку і ў адпаведнасці з крытэрамі, усталяванымі Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь, надаць прадукцыі сродку масавай інфармацыі знак узроставай катэгорыі, за выключэннем выпадкаў, калі наяўнасць такога знака з'яўляецца неабавязковай у адпаведнасці з часткай першай пункта 5-2 гэтага артыкула.

5-2. Распаўсюд прадукцыі сродку масавай інфармацыі, у тым ліку прадукцыі замежнага сродку масавай інфармацыі, без знака ўзроставай катэгорыі, які надаецца ў парадку і ў адпаведнасці з крытэрамі, вызначанымі Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь, забараняецца, за выключэннем:

- тэле- і радыёперадач, якія транслююцца ў прамым эфіры;
- тэле- і радыёперадач інфармацыйна-аналітычнага, інфармацыйнага, культурна-асветніцкага, спартыўнага і духоўна-асветніцкага характару;
- замежных тэле- і радыёпраграм, якія распаўсюджваюцца на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь без змены формы або зместу;
- друкаваных сродкаў масавай інфармацыі, якія спецыялізуюцца на распаўсюдзе інфармацыі агульнапалітычнага, навуковага, вытворча-практычнага, нарматыўнага, масава-палітычнага, афіцыйнага, духоўна-асветніцкага, даведачнага, культурна-асветніцкага, рэфератыўнага і статыстычнага характару;
- інфармацыйных паведамленняў і (або) матэрыялаў, якія распаўсюджваюцца праз глабальную камп’ютарную сетку Інтэрнэт.

... Знак узроставай катэгорыі надаецца інфармацыйным рэсурсам (іх складнікам), размешчаным у глабальнай камп'ютарнай сетцы Інтэрнэт, іх уладальнікамі на добраахвотнай аснове ў парадку і ў адпаведнасці з крытэрамі, вызначанымі Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь".

У адпаведнасці з дапаўненнямі, унесенымі ў **арт. 49** закона аб СМІ, пісьмовае папярэджанне Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь рэдакцыі сродку масавай інфармацыі або ўладальніку інфармацыйнага рэсурсу (яго складніка), размешчанага ў глабальнай камп’ютарнай сеткі Інтэрнэт, можа быць вынесенае ў выпадку:

- адсутнасці на прадукцыі сродку масавай інфармацыі, выробленай на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь, знака ўзроставай катэгорыі, калі наяўнасць такога знака з'яўляецца абавязковай;
- распаўсюд прадукцыі замежнага сродку масавай інфармацыі без знака

ўзроставай катэгорыі, калі наяўнасць такога знака з'яўляецца абавязковай.

В) Унесеныя змяненні і дапаўненні ў **Закон Рэспублікі Беларусь** ***"Аб выдавецкай справе ў Рэспубліцы Беларусь"***, якія рэгламентуюць дзейнасць выдаўцоў і распаўсюднікаў друкаваных выданняў (акрамя СМІ).

**25 кастрычніка 2016 Пастановай Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь № 871 "Аб мерах па рэалізацыі Закона Рэспублікі Беларусь ад 11 мая 2016 года** ***"Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у некаторыя законы Рэспублікі Беларусь»»***, якая ўступае ў сілу з 1 ліпеня 2017 г., былі зацверджаныя:

- Палажэнне аб парадку прысваення інфармацыйнай прадукцыі знака ўзроставай катэгорыі і некаторых асаблівасцях яе распаўсюду;
- Палажэнне аб крытэрах вызначэння ўзроставай катэгорыі дзяцей, сярод якіх дапускаецца распаўсюд інфармацыйнай прадукцыі;
- Палажэнне аб грамадска-кансультатыўным савеце па абароне дзяцей ад інфармацыі, што наносіць шкоду іх здароўю і развіццю;
- склад грамадска-кансультацыйнага савета па абароне дзяцей ад інфармацыі, якая наносіць шкоду іх здароўю і развіццю.

**18 кастрычніка** прыняты **Закон** ***«Аб рэспубліканскім бюджэце на 2017 год»***, якім прадугледжана выдзяленне каля 97 666 846,0 рублёў (каля 46,2 млн еўра) на фінансаванне дзяржаўных СМІ, што прыкладна на 1,4 млн еўра больш, чым ў 2016 г. У тым ліку, на тэлебачанне і радыёвяшчанне – 80 531 381,0 рублёў (каля 38,1 млн еўра), на перыядычны друк і выдавецтвы – 7 071 874,0 рублёў (каля 3,3 млн еўра), на "іншыя пытанні ў галіне СМІ " – 10 063 591,0 рублёў (каля 4,8 млн еўра). Пры гэтым фінансаванне тэлебачання і радыёвяшчання было павялічанае, а фінансаванне перыядычнага друку і выдавецтваў скарочанае ў параўнанні з мінулым годам.

**21 снежня** прынята **Пастанова Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь № 1060** ***"Аб зацвярджэнні пералікудрукаваных сродкаў масавай інфармацыі, рэдакцыям якіх у 2017 годзе аказваецца падтрымка з рэспубліканскага бюджэту»***. У гэты пералік на пазаконкурснай і непразрыстай аснове ўключаныя 26 дзяржаўных газет і часопісаў.

# ПАРУШЭННІ ПРАВОЎ СМІ І ЖУРНАЛІСТАЎ, КАНФЛІКТЫ Ў СФЕРЫ СМІ

## Крымінальныя справы

### Справа Аляксандра Алесіна

**25 студзеня** стала вядома, што Камітэт дзяржаўнай бяспекі прыпыніў крымінальную справу ў дачыненні да **Аляксандра Алесіна.** Верагоднай прычынай прыпынення справы стала поўнае выключэнне **Законам Рэспублікі Беларусь ад 5 студзеня 2016 года** з Крымінальнага кодэкса артыкула 356-1 – «Наладжванне супрацоўніцтва са спецыяльнай службай, органам бяспекі або разведвальным органам замежнай дзяржавы».

Нагадаем, што вайсковага эксперта, аглядальніка штотыднёвіка «Белорусы и рынок» Аляксандра Алесіна **затрымалі** беларускія спецслужбы **25 лістапада 2014 года.** Пра гэта стала вядома толькі на пачатку снежня, але ні прычын затрымання, ні месцазнаходжання журналіста КДБ не паведамляла. Пазней высветлілася, што Алесіна ўтрымліваюць у следчым ізалятары КДБ. Першапачаткова яму было выстаўлена абвінавачанне ў здрадзе дзяржаве (артыкул 356 Крымінальнага кодэкса) і наладжванні супрацоўніцтва са спецыяльнай службай органаў бяспекі або выведвальным органам замежнай дзяржавы (артыкул 356-1). **10 снежня 2014 года** Алесіна вызвалілі пад падпіску аб нявыездзе. Абвінавачанне ў здрадзе дзяржаве з яго знялі і пакінулі толькі абвінавачанне ў супрацы з замежнай спецслужбай.

### Справа Эдуарда Пальчыса

**25 жніўня** дзевяць артыкулаў, апублікаваных на сайце 1863x.com, былі прызнаныя суддзёй суда Цэнтральнага раёна г. Мінска «экстрэмісцкімі» ў сувязі з крымінальнай справай затрыманага рэдактара сайта **Эдуарда Пальчыса**. Разгляд справы адбываўся ў закрытым пасяджэнні. Па словах адваката Ганны Бахціной, суд разглядаў толькі вынікі экспертызы, а не самі матэрыялы з сайта.

Эдуард Пальчыс (псеўданім Jhon Silver) з'яўляецца заснавальнікам 1863x.com – блога, прысвечанага аналізу бягучых палітычных падзеяў у Беларусі, Расіі і Украіне, а таксама беларускай гісторыі і культуры. У 2015 г. ён быў абвінавачаны ў распальванні варажнечы па прыкмеце расавай, нацыянальнай, рэлігійнай, моўнай ці іншай сацыяльнай прыналежнасці (ч. 1 арт. 130 Крымінальнага кодэкса), а таксама ў распаўсюдзе парнаграфічных матэрыялаў (арт. 343 КК). У кастрычніку 2015 г. Пальчыс пакінуў Беларусь, каб пазбегнуць перасьеду і быў аб'яўлены ў міжнародны вышук, пасля чаго затрыманы ў Расійскай Федэрацыі падчас перасячэння мяжы Украіны і Расіі **23 студзеня** 2016 г.

Эдуард Пальчыс быў пераведзены з Бранскага СІЗА ў следчы ізалятар ў Мінску напрыканцы траўня. Да суда ён знаходзіўся пад вартай. Беларускія праваабарончыя арганізацыі прызналі Эдуарда Пальчыса палітычным вязнем, а справу супраць яго – палітычна матываванай.

**28 кастрычніка** Мінскі гарадскі суд прыгаварыў блогера Эдуарда Пальчыса да 1 года і 9 месяцаў абмежавання волі без накіравання ў папраўчую ўстанову. Блогер быў прызнаны вінаватым у распальванні варажнечы па прыкмеце расавай, нацыянальнай, рэлігійнай, моўнай ці іншай сацыяльнай прыналежнасці (ч. 1 арт. 130 Крымінальнага кодэкса РБ), а таксама ў распаўсюдзе парнаграфічных матэрыялаў (арт. 343 КК ).

Э. Пальчыс быў вызвалены з-пад варты ў зале суда. З улікам часу, праведзенага пад вартай і ў спецыяльнай медычнай установе падчас правядзення судова-медыцынскай экспертызы, пазасталы тэрмін пакарання склаў 2 месяцы.

**Крымінальны пераслед аўтараў, якія друкаваліся на расійскіх электронных рэсурсах ("Регнум" і інш.)**

**6 снежня** Следчы камітэт РБ арыштаваў блогераў **Юрыя Паўлаўца** (у Мінску) і **Дзмітрыя Алімкіна** (у Брэсце), супраць іх былі распачатыя крымінальныя справы за распальванне нянавісці (арт. 130 Крымінальнага кодэкса РБ) праз іх публікацыі на расійскіх сайтах Regnum, Lenta.ru, EADaily.

**9 снежня** Следчы камітэт Рэспублікі Беларусь паведаміў аб арышце супрацоўніка расійскага сайта "Регнум" **Сяргея Шыптэнкі** ў межах расследавання справы па арт. 130 Крымінальнага кодэкса Беларусі. Справа была распачатая па падазрэнні ў "здзяйсненні наўмысных дзеянняў, накіраваных на ўзбуджэнне ў розных груп насельніцтва Расійскай Федэрацыі і Рэспублікі Беларусь нацыянальнай і іншай сацыяльнай варожасці, а таксама варажнечы па прыкметах нацыянальнай, моўнай і іншай сацыяльнай прыналежнасці, якія выявіліся ў падрыхтоўцы і размяшчэнні ў інтэрнэце артыкулаў пад псеўданімам Артур Грыгор'еў".

У падазраваных былі праведзеныя вобшукі; вынятая тэхніка.

Першапачаткова паведамлялася, што справы ўзбуджаныя паводле трэцяй часткі арт. 130 Крымінальнага кодэкса (здзяйсненне злачынства групай асобаў), якая прадугледжвае пакаранне ў выглядзе пазбаўлення волі на тэрмін ад 5 да 12 год. У далейшым абвінавачанне было перакваліфікаванае на першую частку ўзгаданага артыкула, якая дапускае альтэрнатыўныя віды пакарання (штраф, арышт, абмежаванне волі на тэрмін да пяці гадоў або пазбаўленне волі на такі ж самы тэрмін).

Падставай для распачынання крымінальных спраў сталі звароты ў Следчы камітэт Міністэрства інфармацыі, дзе паведамлялася пра наяўнасць у публікацыях гэтых аўтараў прыкметаў праявы экстрэмізму. Міністэрства інфармацыі спасылалася на заключэнне Рэспубліканскай экспертнай камісіі пры міністэрстве па ацэнцы інфармацыйнай прадукцыі на прадмет наяўнасці / адсутнасці ў ёй прыкметаў праявы экстрэмізму.

Меркаванні беларускай грамадскасці наконт затрымання аўтараў "Регнума" і іншых расійскіх сайтаў падзяліліся. Шмат хто палічыў гэтыя дзеянні з боку дзяржавы крокамі па абароне нацыянальнага суверэнітэту, але іншыя пабачылі ў іх пагрозу свабодзе выказвання меркавання. Рэдакцыя "Регнума" акрэсліла дзеянні сілавых структураў як "правакацыйныя і здрадніцкія ў дачыненні да Беларусі і Расіі".

"Рэпарцёры без межаў" заклікалі беларускія ўлады неадкладна вызваліць затрыманых. "Артыкулы гэтых трох блогераў з'яўляюцца спрэчнымі, але гэта не апраўдвае іх зняволенне, – заявіў Ёхан Бір, кіраўнік аддзела RSF па Усходняй Еўропе і Цэнтральнай Азіі. – У адпаведнасці з міжнароднымі стандартамі іх часовае затрыманне не з'яўляецца ні неабходным, ні прапарцыйным".

## Іншыя судовыя справы (акрамя адміністрацыйнага пераследу)

**2 сакавіка** суд Маскоўскага раёна пастанавіў выплаціць Антону Сурапіну кампенсацыю маральнай шкоды ў памеры 8 млн руб., што складала каля 350 еўра (пазоўнік патрабаваў кампенсацыю ў памеры 190 мільёнаў рублёў), за незаконны арышт.

У **2012 г.** малады беларускі фатограф больш за месяц прабыў у СІЗА КДБ Беларусі. Тады Антона Сурапіна абвінавацілі ў падрыхтоўцы незаконнага перасячэння дзяржаўнай мяжы шведамі, хаця журналіст проста першым размясціў фотаздымкі «плюшавага дэсанту» на сваім сайце. Пра спыненне крымінальнага пераследу Антона Сурапіна КДБ афіцыйна аб'явіў у чэрвені **2013 г.** Арышт Сурапіна ўзначаліў дзясятку самых абсурдных арыштаў года ў рэйтынгу Amnesty International.

**16 мая** Мінскі гарадскі суд, разгледзеўшы касацыйныя скаргі Сурапіна і Міністэрства фінансаў, пакінуў рашэнне суда першай інстанцыі ў сіле.

**17 чэрвеня** суд Цэнтральнага раёна Мінска адхіліў іск праваабаронцы з Гомеля, сябра БАЖ **Леаніда Судаленкі** да "Белорусской военной газеты". Такое рашэнне прыняла суддзя Марына Казлова.

У красавіку 2016 г. Леанід Судаленка звярнуўся ў суд з патрабаваннем аб прызнанні несапраўднымі і абвяржэнні звестак, надрукаваных у "Белорусской военной газете". Суадказчыкамі ў іску фігуравалі журналіст выдання **Уладзімір Кажэўнікаў** і дзяржаўная ўстанова "Ваеннае інфармацыйнае агенцтва Узброеных Сіл Беларусі "Ваяр"" ("Белорусская военная газета" – адна з трох рэдакцый, што **ўваходзяць у склад агенцтва "Ваяр"**). Гаворка ішла пра публікацыю ад 10 сакавіка 2016 г. "Кому выгодно порочить белорусскую армию?". Артыкул тычыўся інцыдэнту з **уцёкамі двух жаўнераў** з размешчанай у Брэсце вайсковай часткі № 92616 з-за збіцця і пагрозаў. Леанід Судаленка тады выступіў ініцыятарам **звароту** 75 грамадзян да міністра абароны Беларусі з патрабаваннем спыніць нестатутныя адносіны ў беларускім войску. У публікацыі "Кому выгодно порочить белорусскую армию?" гаварылася, што праваабаронца займаецца *"антыармейскай агітацыяй", "даносамі", "ганьбіць сваю краіну" і "разбурае грамадства".* Судаленка звяртаўся ў рэдакцыю з прапановай выбачыцца і апублікаваць абвяржэнне, аднак начальнік дзяржаўнай установы "Ваеннае інфармацыйнае агенцтва Узброеных Сіл Беларусі "Ваяр"" палкоўнік **Аляксей Пашкевіч** **вырашыў, што падставаў для гэтага няма**.

**26 верасня** суд Цэнтральнага раёна Мінска прыняў рашэнне заблакаваць на тэрыторыі Беларусі сайт беларускай анархісцкай суполкі «Прамень» **pramen.io**, з-за быццам размешчаных на сайце «экстрэмісцкіх матэрыялаў». «Сапраўднай жа прычынай ёсць тое, што наш сайт прадстаўляе альтэрнатыўны афіцыйнаму пункт гледжання на падзеі ў Беларусі і ў свеце, — адзначылі прадстаўнікі суполкі. — Яго блакаванне — заканамерны крок па знішчэнні дзяржавай любых непадкантрольных сродкаў інфармацыі».

**22 снежня** Эканамічны суд Мінска пастанавіў, што журналіст агенцтва Associated Press **Юрась Карманаў** мусіць напісаць і накіраваць у агенцтва абвяржэнне свайго матэрыялу пра перавышэнне ўзроўню стронцыю ў малацэ вытворчасці фермера Мікалая Чубянка. Таксама суд абавязаў Карманава кампенсаваць дзяржпошліну (840 рублёў) і паслугі адваката ААТ "Мілкавіта" (1 500 рублёў).

Рашэнне было прынятае нягледзячы на тое, што прадстаўнік Мінскага цэнтра гігіены і эпідэміялогіі Аксана Драбышэўская, якая праводзіла даследаванне,

пацвердзіла падчас судовага працэсу, што цэнтр выдаў Карманаву пратакол вымярэнняў, дзе «нарматыўныя паказчыкі» па стронцыю перавышаюць норму ў 10 разоў. Пазней цэнтр заявіў, што выдадзеныя паказчыкі з'яўляюцца «некарэктнымі».

Артыкул 52 Закона аб СМІ прадугледжвае, што журналіст «не нясе адказнасці за распаўсюд звестак, якія не адпавядаюць рэчаіснасці, калі гэтыя звесткі атрыманыя ад дзяржаўных органаў, іншых дзяржаўных арганізацый, іх службовых асобаў". Аднак суд адмовіўся прыцягнуць у якасці суадказчыка Мінскі цэнтр гігіены і эпідэміялогіі – дзяржаўны орган, які прадаставіў журналісту звесткі.

**У красавіку 2016 г.** журналісты Associated Press зацікавіліся тэмай актыўнага выкарыстання забруджаных зямель Чарнобыльскай зоны для сельскай гаспадаркі. У выніку расследавання журналісты даведаліся, што фермер Мікалай Чубянок, які меў малочную ферму за некалькі кіламетраў ад знакаў «Стоп! Радыяцыя!», штодня здае каля дзвюх тон малака на завод ААТ «Мілкавіта» ў Хойніках. Каля 90% прадукцыі ААТ «Мілкавіта» з Хойнікаў ідзе на экспарт у Расію. Згодна з заключэннем Мінскага гарадскога цэнтра гігіены і эпідэміялогіі, якое атрымалі журналісты, малако ўтрымлівала 37,5 Бк/кг стронцыю пры дапушчальнай норме ў 3,7 Бк/кг. Журналісты праінфармавалі аб выніках даследванняў кіраўніцтва «Мілкавіты» і працытавалі ў сваім артыкуле словы прадстаўніка завода Маі Феданчук. Яна паведаміла, што «ўласны аналіз лабараторыі завода паказвае, што малако адпавядае нормам і ўтрымлівае стронцый у сярэднім 2,85 Бк/кг». Пасля публікацыі матэр’ялу Дэпартамент па ліквідацыі наступстваў катастрофы на Чарнобыльскай АЭС МНС Беларусі правёў праверку, якая не выявіла ў малацэ перавышэння па колькасці стронцыю-90. На гэтыя вынікі і спасылалася ААТ «Мілкавіта» ў сваёй заяве ў суд.

ГА «Беларуская асацыяцыя журналістаў» прыняло заяву з нагоды **рашэння** Эканамічнага суда г. Мінска па іску ТАА «Мілкавіта», выказаўшы занепакоенасць сітуацыяй са свабодай слова, якая склалася пасля рашэння Эканамічнага суда Мінска па іску ААТ «Мілкавіта» да журналіста агенцтва Associated Press Юрася Карманава, паколькі яно ставіць пад сумнеў саму магчымасць правядзення грамадска значных журналісцкіх расследаванняў у Беларусі.

**26 снежня** ў судзе Маскоўскага раёна Мінска адбылося абвяшчэнне рашэння па пазове доктара Маісеенкі аб абароне гонару і годнасці да **ТАА «Онлайнер»**, журналіста Onliner.by **Аляксандра Чарнухі** і пацыенткі Юліі. Маісеенка падаў у суд з-за матэрыялу «Я человек, у которого забрали будущее». История одного диагноза», апублікаванага на Onliner.by. Маісеенка палічыў, што публікацыя ўтрымлівае недакладныя звесткі, якія зневажаюць яго дзелавую рэпутацыю. Сума пазову аб абароне гонару, годнасьці, дзелавой рэпутацыі і кампенсацыі маральнай шкоды складала 25 тысяч рублёў. Суд адмовіў у задавальненні патрабаванняў Маісеенкі.

**28 снежня** суддзя Валянціна Лапаціна палічыла, што апытанне адміністратара старонкі Могилев.Live **Аляксандра Ірхо** не ўтрымлівала звестак, якія б зневажалі дзелавую рэпутацыю магілёўскай міліцыі. Справа разглядалася ў судзе Ленінскага раёна г. Магілёва.

УУС Магілёўскага аблвыканкама абвінавачвала Аляксандра Ірхо ў размяшчэнні інфармацыі “негатыўнага, паклёпніцкага і правакацыйнага характару” ў дачыненні да супрацоўнікаў ДАІ ў сацыяльнай сетцы “ВКонтакте”. Аляксандр Ірхо **21 лістапада** размясціў “ВКонтакте” апытанне “Якую суму грошай вы давалі супрацоўнікам ДАІ Магілёўскай вобласці?”. Для адказу прапаноўвалася выбраць адзін з наступных варыянтаў: “Менш за 20 долараў”, “101 і больш долараў”, “Я пытанні без грошай вырашаў” і некалькі іншых. УУС палічыла такое апытанне абразлівым і падало супраць Аляксандра Ірхо пазоў аб абароне гонару, годнасці і дзелавой рэпутацыі ў суд

Ленінскага раёна Магілёва, патрабуючы прынесці прабачэнні і апублікаваць адпаведнае абвяржэнне.

## Затрыманні журналістаў, адміністрацыйны пераслед

**11 студзеня** супраць гомельскай журналісткі **Ларысы Шчыраковай** была распачатая справа аб адміністрацыйным правапарушэнні згодна з ч. 2 арт. 22.9 Кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэннях РБ за незаконны выраб і распаўсюд прадукцыі сродкаў масавай інфармацыі – супрацоўніцтва з замежным СМІ без акрэдытацыі. Гаворка ішла пра сюжэт на тэлеканале “Белсат” пад назвай “Жахлівыя ўмовы беларускіх інвалідаў”, паказаны ў эфіры 3 снежня 2015 года. У троххвілінным сюжэце відэаздымкі пра дзяўчыну-інваліда са Светлагорска займалі 40 секунд. Аднак мясцовым міліцыянтам гэтага было дастаткова, каб абвінаваціць Ларысу Шчыракову ў вырабе і распаўсюдзе прадукцыі СМІ без акрэдытацыі. **5 лютага** суддзя Светлагорскага раённага суда (Гомельская вобласць) Уладзімір Сцяпанаў спыніў адміністрацыйную справу па арт. 22.9 супраць Ларысы Шчыраковай – скончыўся тэрмін, цягам якога можна прыцягваць парушальніка да адказнасці.

**13 студзеня** суддзя Гомельскага раённага суда Аляксандр Лісоўскі аштрафаваў **Ларысу Шчыракову** на 4620000 беларускіх рублёў (каля 225 еўра) за парушэнне, прадугледжанае ч. 2 арт. 22.9 Кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэннях (“Незаконны выраб і распаўсюд прадукцыі СМІ”), а фактычна – за працу на замежны СМІ без акрэдытацыі. Сюжэт, які стаў падставай для пратакола, быў прысвечаны праблемам былога гадаванца школы-інтэрната з пасёлка Урыцкі і выйшаў у эфір тэлеканала “Белсат”. Пратакол склаў **24 снежня 2015 г.** капітан міліцыі Гомельскага РАУС Р. Цітоў. Ларыса Шчыракова пры гэтым не прысутнічала і атрымала дакумент поштай **4 студзеня**. Паводле пратакола, журналістка, *знаходзячыся 24 снежня 2015 года ў аграгарадку Урыцкае Гомельскага раёна, не маючы акрэдытацыі ў якасці замежнага карэспандэнта СМІ, падрыхтавала інтэрв’ю ў розных грамадзян, незаконна вырабіла прадукцыю сродкаў масавай інфармацыі, а менавіта відэасюжэт “Падтрымка дзяцей-сірот на іх шляху да дарослага жыцця”, які быў апублікаваны 24.12.2015 у эфіры тэлеканала “Белсат”.*

**14 студзеня** суддзя Калінкавіцкага раённага суда Людміла Савасцьянава прызнала гомельскага журналіста **Кастуся Жукоўскага** вінаватым у парушэнні, прадугледжаным арт. 22.9 Кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэннях, і аштрафавала яго на суму каля 330 еўра.

Згодна з рашэннем суда, **20 лістапада 2015 г.** Кастусь Жукоўскі "*не маючы акрэдытацыі ў Рэспубліцы Беларусь у якасці журналіста замежных СМІ,… праводзіў інтэрв'юіраванне грамадзян, у выніку чаго незаконна вырабіў прадукцыю сродкаў масавай інфармацыі, а менавіта, відэасюжэт пад назвай “Пагоня як сімвал незалежнасці чалавека”*, які быў паказаны 24 лістапада 2015 г. па спадарожнікавым тэлебачанні Рэспублікі Польшча “Белсат” у праграме “Аб’ектыў".

**20 студзеня** суддзя Кармянскага раённага суда (Гомельская вобласць) прысудзіў незалежнаму журналісту **Кастусю Жукоўскаму**, які працуе для польскага тэлеканала “Белсат”, штраф у памеры каля 280 еўра за парушэнне, прадугледжанае ч. 2 артыкула 22.9 беларускага Кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэннях – незаконны выраб і распаўсюд прадукцыі сродкаў масавай інфармацыі. **22 снежня 2015 г.** года журналіст і яго калега Аркадзь Малыш былі ненадоўга затрыманыя паліцыяй у Карме, калі рабілі відэа аб праблемах з водазабеспячэннем у горадзе. Пасля затрымання Кастусь Жукоўскі

быў выкліканы ў міліцыю для складання пратакола; яго калега быў выкліканы толькі ў суд як сведка.

**25 студзеня** ў памяшканні суда Фрунзенскага раёна г. Мінска супрацоўнікі міліцыі затрымалі і збілі журналіста партала TUT.BY Паўла Дабравольскага.

Журналіст знаходзіўся ў судзе для асвятлення рэзананснага судовага працэсу. Ён фіксаваў на камеру мабільнага тэлефона затрыманне ў судзе двух актывістаў, якія трымалі плакат "Не – палітычнаму пераследу!", і быў затрыманы разам з імі.

Супрацоўнікі міліцыі заштурхнулі Дабравольскага і двух актывістаў у суседні з залай суда пакой і збілі.

У Паўла Дабравольскага было пры сабе пасведчанне журналіста, на якое ён марна спрабаваў звярнуць увагу супрацоўнікаў міліцыі. Пасведчанне забралі разам з мабільным тэлефонам.

У той самы дзень на журналіста быў складзены пратакол аб адміністрацыйным правапарушэнні, і ў будынку таго ж суда П. Дабравольскі быў аштрафаваны суддзёй Марыяй Ярохінай на 9,45 млн беларускіх рублёў (каля 420 еўра) за "дробнае хуліганства" (арт. 17.1 Кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэннях) і "непадпарадкаванне законным патрабаванням пасадовых асобаў" (арт. 23.4 КаАП РБ).

Пасля вызвалення журналіст напісаў заяву ў міліцыю, зняў пабоі, а таксама звярнуўся з заявай у Следчы камітэт РБ.

**1 сакавіка** суддзя Мінскага гарадскога суда Валерый Камісараў **разгледзеў касацыйную** скаргу **Паўла Дабравольскага** адносна **інцыдэнту з затрыманнем і збіццём 25 студзеня** і пакінуў рашэнне Фрунзенскага раённага суда ў сіле.

**28 красавіка**, пасля праверкі на працягу трох месяцаў, Следчы камітэт Беларусі адмовіўся распачаць крымінальную справу па скарзе Паўла Дабравольскага. Следчы Сямён Піцко пагадзіўся з версіяй супрацоўнікаў міліцыі і прыйшоў да высновы, што прымяненне сілы імі было законным, бо Дабравольскі выглядаў як злачынца. Журналіст нібыта ўмешваўся ў дзеянні міліцыі, выкрыкваў абразы і схапіў іх за вопратку. Сляды збіцця на целе журналіста, па меркаванні следчага, магчыма, з'явіліся, калі афіцэры спрабавалі зафіксаваць яго ля сцяны і на падлозе. Запіс на мабільным тэлефоне Дабравольскага, зроблены ў пакоі, дзе яго збівалі, быў прызнаны Следчым камітэтам не маючым адносін да праверкі.

**4 лютага** Буда-Кашалёўскі раённы суд Гомельская вобласці аштрафаваў **Кастуся Жукоўскага** на суму 8,4 млн рублёў (каля 350 еўра) за супрацоўніцтва з замежным сродкам масавай інфармацыі без акрэдытацыі. Журналіст быў прызнаны вінаватым у парушэнні, прадугледжаным ч. 2 арт. 22.9 Кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэннях (незаконны выраб і распаўсюд прадукцыі СМІ). Падставай для штрафу стаў паказ на тэлеканале "Белсат" (Польшча) яго відэа "Расія спыняе беларускія заводы» 16 снежня 2015 года.

**24 лютага** суддзя Жлобінскага раённага суда (Гомельская вобласць) Валянціна Сапонава разгледзела дзве асобныя справы ў адносінах да журналіста-фрылансера **Кастуся Жукоўскага** за супрацоўніцтва з тэлеканалам "Белсат", размешчаным у Польшчы. Ён быў абвінавачаны па ч. 2 арт. 22.9 Кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэннях (незаконны выраб і распаўсюд прадукцыі сродкаў масавай інфармацыі). Журналіст быў аштрафаваны па кожнай са справаў на суму 8,4 млн рублёў (каля 350 еўра).

Падставай для абвінавачванняў сталі два міліцэйскія пратаколы адносна двух відэасюжэтаў, паказаных у эфіры "Белсата" – аб неспрыяльным эканамічным становішчы Беларускага металургічнага завода і аб жыхарах вёскі Рудзенка, якім

давялося шукаць працу ў іншых рэгіёнах, таму што мясцовая ферма знаходзіцца на рэканструкцыі больш за дзесяць гадоў. **28 красавіка** па выніку разгляду касацыйнай скаргі Кастуся Жукоўскага суддзя Гомельскага абласнога суда Васіль Бягун знізіў памер прысуджанага фрылансеру штрафу ў два разы – з 16,8 млн рублёў да 8,4 млн.

**2 сакавіка** гомельскі журналіст-фрылансер **Кастусь Жукоўскі быў** выкліканы ў Мазырскі РАУС для складання адміністрацыйнага пратакола паводле ч. 2 арт. 22.9 КаАП – парушэнне заканадаўства аб сродках масавай інфармацыі, якое нібыта выявілася ў вырабе сюжэту для польскага тэлеканала "Белсат" без акрэдытацыі ў беларускім МЗС. Старшы ўчастковы інспектар патлумачыў, што гаворка ідзе пра навінавы сюжэт "Мазыр: спіртзавод банкрут", паказаны на "Белсаце" 9 лютага. К. Жукоўскі ехаць у Мазыр адмовіўся.

**17 сакавіка** Кастусь Жукоўскі быў аштрафаваны на суму 7,35 млн рублёў (каля 360 еўра) у Мазырскім раённым судзе. Журналіст быў прызнаны вінаватым у незаконнай вытворчасці і распаўсюдзе прадукцыі сродкаў масавай інфармацыі ў адпаведнасці з артыкулам 22.9 Кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэннях – за відэа пра банкруцтва Мазырскага спіртзавода, паказанае 9 лютага.

**24 сакавіка** ў Рэчыцы падчас вулічнага апытання наконт стаўлення гараджан да выказвання Кастуся Каліноўскага "Не народ для ўрада, а ўрад для народа" мясцовая міліцыя затрымала гомельскага журналіста-фрылансера **Кастуся Жукоўскага**. Да яго падыйшлі супрацоўнікі міліцыі, якія прапанавалі прайсці ў аддзяленне міліцыі, але не патлумачылі прычыны затрымання. Там ад яго запатрабавалі пісьмовых тлумачэнняў. Жукоўскі адмовіўся зрабіць гэта, бо патрабаванне не было заснаванае на законе. Журналіст правёў у аддзяленні каля дзвюх гадзін, а затым быў адпушчаны.

**31 сакавіка** суддзя Гомельскага раённага суда Тамара Застаўнецкая вярнула на дапрацоўку пратакол участковага інспэктара, маёра міліцыі Дзмітрыя Чана ў дачыненні да журналісткі-фрылансера **Ларысы Шчыраковай**. Яе вінавацілі ў парушэнні заканадаўства аб СМІ паводле ч. 2 арт. 22.9 КаАП, якое нібыта выявілася ў падрыхтоўцы відэасюжэта «Барысаўская трагедыя можа паўтарыцца ў Гомелі» і размяшчэнні яго на сваёй старонцы ў Youtube і на мясцовым сайце «Сильные новости».

**3 красавіка** ў Нароўлі Гомельскай вобласці міліцыянты затрымалі незалежнага журналіста **Алеся Залеўскага** са здымачнай групай і чалавека, у якога яны бралі інтэрв'ю. Журналісты здымалі сюжэт пра інваліда Івана Віткоўскага, які браў удзел у ліквідацыі наступстваў аварыі на Чарнобыльскай АЭС у 1986 годзе. Затрыманым давялося правесці некалькі гадзін у мясцовым аддзяленні міліцыі і даць тлумачэнні з нагоды сюжэта, які яны здымалі. У прыватнасці, здымачная група была абвінавачаная ў незаконных здымках шэрагу мясцовых урадавых будынкаў. Міліцыянты прагледзелі ўсе кадры, а затым вызвалілі журналістаў.

**5 красавіка** суддзя Гомельскага раённага суда Тамара Застаўнецкая пакарала штрафам у памеры 5,25 млн рублёў (каля 320 еўра) незалежную журналістку **Ларысу Шчыракову**. Падставай для пакарання стала дэманстрацыя відэарэпартажа "Барысаўская трагедыя можа паўтарыцца ў Гомелі" тэлеканалам "Белсат" 7 лютага. Гэта было разгледжана суддзёй як парушэнне, прадугледжанае ч. 2 арт. 22.9 Кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэннях (незаконная вытворчасць і распаўсюд прадукцыі сродкаў масавай інфармацыі). Сюжэт быў прысвечаны праблеме канцэнтрацыі вокісу вугляроду ў новых будынках у вёсцы Бальшавік.

**6 красавіка** гомельскіх журналістаў **Кастуся Жукоўскага і Аркадзя Малыша** выклікалі ў суд Светлагорскага раёна. Меркавалася, што там будзе разглядацца чарговая справа аб адміністрацыйным правапарушэнні за "незаконны выраб і распаўсюд прадукцыі СМІ" ў адпаведнасці з арт. 22.9 Кодэкса аб адміністрацыйных

правапарушэннях РБ. Між тым, калі журналісты прыехалі на месца, ім паведамілі, што складзены адміністрацыйны пратакол накіравалі ў Светлагорскі РАУС на дапрацоўку. Ён тычыўся сюжэта “Прыроднае бедства на Гомельшчыне”, які быў паказаны ў лютым 2016 г. на тэлеканале “Белсат” – пра масавы мор рыбы ў Сасноваборскім вадасховішчы Светлагорскага раёна. Міліцыя праводзіла расследаванне, хто гутарыў з мясцовымі жыхарамі і хто размясціў у інтэрнэце інфармацыю, якой скарыстаўся тэлеканал “Белсат”.

**7 красавіка** ў Стоўбцах (Мінская вобласць) ахова Мінскага маторнага завода затрымала незалежную журналістку **Ганну Нежавец** і аператара **Аляксандра Масальскага**. Яны здымалі будынак завода звонку. Ахова затрымала журналістаў і стала патрабаваць выдаліць відэа, спасылаючыся на тое, што завод – гэта рэжымны аб’ект. Журналісты выканалі патрабаванне, але іх утрымлівалі ўсё адно, пакуль тыя не напісалі тлумачэнні на імя дырэктара завода. Прыкладна праз гадзіну журналістаў адпусцілі. «Ахоўнік сцвярджаў – у кадры ёсць дрот, і гэта, маўляў, азначае, што мы хочам паказаць жыццё нашых людзей як у канцлагеры”, – распавяла Ганна Нежавец. Па словах журналісткі, ахоўнік патэлефанаваў у мясцовае аддзяленне КДБ. Аднак там, пачуўшы, што затрыманне адбылося нават не на тэрыторыі завода, сказалі, што прыязджаць не будуць.

**7 красавіка** журналістка **Ганна Нежавец** і тэлеаператар **Аляксандр Масальскі** былі дастаўленыя ў аддзяленне міліцыі ў Слуцку і ненадоўга затрыманыя. Журналісты збіраліся зрабіць рэпартаж пра мясцовы рынак. Убачыўшы іх камеру, ахоўнік рынка выклікаў міліцыю. Журналісты былі дастаўленыя ў аддзяленне міліцыі, дзе запісалі іх асабістыя дадзеныя, пасля чаго адпусцілі. Раней у той жа дзень журналісты пераi жылі падобны інцыдэнт у горадзе Стоўбцы, дзе іх затрымалі вартавыя мясцовага завода.

**8 красавіка** супраць **Яўгена Глаголева-Васьковіча**, які працуе ў газеце “Бобруйский курьер”, быў складзены пратакол па арт. 23.34 КаАП за парушэнне закона аб масавых мерапрыемствах. **24 красавіка** яго выклікалі па тэлефоне да ўчастковага інспектара для апытання. Журналіст быў абвінавачаны ва ўдзеле ў несанкцыянаваным пікеце актывістаў незалежнага прафсаюза ў горадзе Слоніме 31 сакавіка. Разам з Александрынай Глаголевай ён асвятляў пікет па заданні рэдакцыі, і 2 красавіка артыкул аб гэтай падзеі быў размешчаны на сайце “Бобруйского курьера”. Тым не менш, міліцыя завяла справы супраць Александрыны Глаголевай і Яўгена Глаголева-Васьковіча як парушальнікаў закона аб масавых мерапрыемствах. Аднак справа Глаголева-Васьковіча не была накіравана ў суд.

**8 красавіка** ў дачыненні да журналісткі «Бобруйского курьера» **Александрыны Глаголевай** быў складзены пратакол аб адміністрацыйным правапарушэнні па арт. 23.34 КаАП. Месяцам раней, 31 сакавіка, яна разам з Яўгенам Глаголевым-Васьковічам па заданні «Бобруйского курьера» асвятляла ў Слоніме пікет прафсаюза работнікаў радыёэлектроннай прамысловасці (РЭП). Публікацыя пра гэтае мерапрыемства – «Бабруйскія актывісты прафсаюзу РЭП падтрымалі свайго слонімскага калегу» – **з'явілася** на сайце «Бобруйского курьера». Тым не менш, міліцыя завяла справы супраць Александрыны Глаголевай і Яўгена Глаголева-Васьковіча як парушальнікаў закона аб масавых мерапрыемствах. 30 красавіка журналістку выклікалі да ўчастковага інспектара мясцовага УУС Юрыя Савіча, дзе азнаёмілі з пратаколам, складзеным участковым інспектарам Слонімскага РАУС Аляксандрам Навасадам. Справа Глаголевай была вернута ў міліцыю Слоніма судом горада Бабруйска. Паведамленне пра гэта журналістка атрымала па пошце. У ім бабруйская суддзя Наталля Шэгеда інфармавала, што справу пра адміністрацыйнай правапарушэнне паводле ч.1 арт. 23.34. КаАП РБ у дачыненні да А. Глаголевай вяртаюць Слонімскаму РАУС. Пазней яна была спынена ў сувязі са сканчэннем тэрміну прыцягнення да адказнасці. **22 чэрвеня** ўчастковы інспектар УУС Бабруйскага гарвыканкама Юрый Савіч па тэлефоне

запатрабаваў, каб **Александрына Глаголева** з'явілася для дачы дадатковых паказанняў па адміністрацыйнай справе, заведзенай яшчэ 8 красавіка 2016 г. Журналістка праінфармавала ўчастковага інспектара, што прыйдзе толькі па позве, аформленай у адпаведнасці з заканадаўствам. Пасля гэтага, як расказала Глаголева, інспектар стаў размаўляць на павышаных танах, пагражаць «наступствамі», вінаваціць яе ў тым, што яна нібыта «зацягвае працэс».

**13 красавіка** журналіст-фрылансер **Кастусь Жукоўскі** быў затрыманы ў Светлагорску. Ён збіраўся асвятляць сустрэчу мясцовых уладаў з прадпрымальнікамі, але быў затрыманы супрацоўнікамі міліцыі. Калі журналіст здымаў будынак раённага выканаўчага камітэта, да яго падыйшла супрацоўніца аддзела ідэалогіі райвыканкама Ала Манкевіч, якая заявіла, што ён не мае права здымаць. Кастусь Жукоўскі сказаў, што гэта не забаронена законам. Тады чыноўніца выклікала міліцыю. Тым часам журналіст увайшоў у будынак раённага выканаўчага камітэта. Прыбылі міліцыянты, вывелі яго з будынка гвалтоўна і даставілі ў аддзяленне міліцыі. Жукоўскі правёў там каля дзвух гадзін і даў тлумачэнні.

**15 красавіка** суддзя Цэнтральнага раённага суда Гомеля Аляксей Піскуноў пастанавіў, што журналісты-фрылансеры **Кастусь Жукоўскі** і **Ларыса Шчыракова** павінныя заплаціць штраф у памеры 7,35 млн руб. (каля 330 еўра) кожны. Абодва яны былі абвінавачаныя ў незаконным вырабе і распаўсюдзе прадукцыі сродкаў масавай інфармацыі (арт. 22.9 Кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэннях), а па сутнасці – у супрацоўніцтве з замежным СМІ без акрэдытацыі. Відэарэпартаж Жукоўскага, прысвечаны ўкраінскім бежанцам у Гомелі і візіту Вярхоўнага камісара Арганізацыі Аб'яднаных Нацый па справах бежанцаў (УВКБ) Жана-Іва Бушардзі ў Беларусь, выйшаў у эфір на тэлеканале “Белсат”. Там не было ніводнага кадра, знятага Ларысай Шчыраковай. Яна здымала візіт на мабільны тэлефон для сябе. Тым не менш, ні міліцыя, ні суддзя не запыталі доказы яе ўдзелу ў падрыхтоўцы сюжэта для “Белсата”. Жукоўскаму не было дазволена суддзёй мець абаронцу падчас слуханняў. У знак пратэсту ён апрануў павязку на рот і адмовіўся адказваць на пытанні суддзі. Пасля судовага слухання Жукоўскі сказаў, што ён збіраецца зашыць рот на знак пратэсту супраць пераследу за журналісцкую дзейнасць і выканаў сваё абяцанне перад камерай.

Да гэтага на працягу 2016 г. Кастусь Жукоўскі быў ужо шэсць разоў аштрафаваны па тым жа абвінавачванні на агульную суму больш за 2200 еўра.

**14 мая** карэспандэнта “Радыё Свабода” **Алега Груздзіловіча** затрымалі падчас асвятлення акцыі «Праспект Нацыянальнага сцяга» на Кастрычніцкай плошчы ля выхаду са станцыі метро «Кастрычніцкая», калі ён фатаграфаў, як працаўнікі камунальных службаў здымалі з флагштоку бел-чырвона-белы сцяг, прымацаваны туды ўдзельнікам акцыі. Груздзіловіча абвінавацілі у тым, што ён выйшаў на праезную частку. Пры гэтым рух на праспекце падчас усёй акцыі быў перакрыты па невядомых прычынах. Журналіста адвезлі на міліцэйскай машыне да гатэля «Еўропа», дзе яму выпісалі штраф памерам 210 тыс. рублёў за парушэнне правілаў дарожнага руху.

**2 чэрвеня** ў Крупках (Мінская вобласць) міліцыя затрымала фатографа **Генадзя Верацінскага**. Ён прыехаў туды разам з двума актывістамі Аб’яднанай грамадзянскай партыі, якія збіраліся сустрэцца з мясцовым насельніцтвам. Калі актывісты раздавалі ўлёткі, журналіст быў затрыманы разам з імі і дастаўлены ў РУУС Крупскага раёна. Усім затрыманым міліцыя пагражала складаннем адміністрацыйных пратаколаў за раздачу інфармацыйных матэрыялаў. Аднак прыкладна праз гадзіну пасля затрымання ўсіх вызвалілі, перапісаўшы пашпартныя дадзеныя.

**6 чэрвеня** адміністратара суполкі «Рудабельская паказуха» ў сацсетцы “Одноклассники” **Андрэя Павука** аштрафавалі на 2,1 млн рублёў (94 еўра) па арт. 9.2. КаАП Рэспублікі Беларусь (“Паклёп”). Такое рашэнне прыняў суддзя Акцябрскага

раённага суда (Гомельская вобласць) Уладзімір Васілеўскі. Пратакол быў складзены па заяве намесніка начальніка ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі Акцябрскага райвыканкама Сяргея Зарычнага. Падставай для звароту ў міліцыю стаў допіс Андрэя Павука, у якім ён выказваў падазрэнні наконт карумпаванасці чыноўніка. Сам адміністратар **прызнае**, што хацеў задаць пытанне, але атрымалася сцвярджэнне. Ён прынёс прабачэнні заяўніку ў судзе, але той не прыняў іх.

**21 чэрвеня** журналіст-фрылансер Кастусь Жукоўскі і тэлеаператар Аляксей Атрошчанка былі затрыманыя ў горадзе Лоеў Гомельскай вобласці, у той час як яны здымалі мясцовы цагляны завод, каб зрабіць рэпартаж для тэлеканала "Белсат" пра дрэнны стан эканомікі ў рэгіёнах Беларусі. Іх праца была раптоўна перарваная ДАІ, мясцовыя міліцыянты прыбылі пазней і гвалтоўна затрымалі журналістаў.

*"Міліцыя прыбыла і жорстка затрымала мяне і майго калегу Аляксея. Мы былі дастаўленыя ў аддзяленне міліцыі. Яны выхапілі абсталяванне з нашых рук, зламалі яго. Я быў збіты з ног на падлогу, мне надзелі кайданкі, прыціскалі каленам галаву; чалавек, які зрабіў гэта, назваў сябе намеснікам начальніка Генадзем Маджарам,"* – паведаміў БелаПАН Кастусь Жукоўскі. Журналіст таксама расказаў, што ён меў высокі крывяны ціск; была выкліканая хуткая дапамога; ён атрымаў ін'екцыю. Кастусь Жукоўскі і Аляксей Атрошчанка правялі шэсць гадзін у аддзяленні міліцыі. Якія-небудзь дакументы не былі складзеныя, нягледзячы на пагрозу. Атрошчанка падаў заяву ў Следчы камітэт Рэспублікі Беларусь, каб дзеянні міліцыі былі расследаваныя.

**28 чэрвеня** чатыры пратаколы аб адміністрацыйным правапарушэнні былі складзеныя ў дачыненні да незалежнага журналіста **Кастуся Жукоўскага** і два – у дачыненні да яго калегі **Аляксея Атрошчанкі** ў выніку іх жорсткага затрымання ў Лоеве **21 чэрвеня**. Пратаколы былі складзеныя Андрэем Клічовым праз тыдзень пасля затрымання і адпраўленыя журналістам па пошце. Кастусь Жукоўскі быў абвінавачаны ў абразе дзвюх чыноўніц мясцовага райвыканкома – Ірыны Пастуховай і Наталлі Кауравай, а таксама намесніка начальніка мясцовай міліцыі Генадзя Маджары, які затрымліваў яго (два пратаколы); трэці пратакол быў складзены за непадпарадкаванне супрацоўніку міліцыі (Генадзю Маджару), чацвёрты – за дробнае хуліганства. Паводле пратаколаў, Жукоўскі крычаў, прамаўляў праклёны і сваімі дзеяннямі дэманстраваў адкрытую непавагу да публікі. Аляксей Атрошчанка быў абвінавачаны ў абразе службовых асобаў і непадпарадкаванні законным патрабаванням міліцыі: ён нібыта абразіў дзвюх жанчын, а затым адмовіўся сесці ў машыну, каб ехаць у аддзяленне міліцыі. **26 ліпеня** пры разглядзе справы Жукоўскага ў Лоеўскім раённым судзе тры з чатырох пратаколаў (акрамя пратакола за дробнае хуліганства), складзеных у дачыненні да Жукоўскага, былі вернутыя суддзёй Антанінай Музычэнка на дапрацоўку ў міліцыю.

**12 жніўня** ў Лоеве маёрам міліцыі Андрэем Хічовым быў складзены пратакол супраць журналіста-фрылансера **Кастуся Жукоўскага**. Ён быў абвінавачаны ў незаконным правядзенні апытання грамадскай думкі (арт. 9.28 Кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэннях). Гэта стала пятым абвінавачаннем супраць журналіста пасля яго жорсткага затрымання **21 чэрвеня**. Згодна з дакументам, апытанне грамадскай думкі, прысвечанае геапалітычнай сітуацыі, было праведзенае журналістам на тэрыторыі Лоеўскага раёна без належнай акрэдытацыі; затым яго вынікі з'явіліся на "Белсаце".

**1 ліпеня** стала вядома, што за некалькі дзён да гэтага карэспандэнта "Ганцавіцкага часу" **Мікіту Яраша** выклікалі ў міліцыю, каб узяць з яго тлумачэнні па скарзе з Ганцавіцкага райвыканкама. Кіраўніцтва раённай вертыкалі палічыла, што рэдакцыя газеты парушыла заканадаўства аб СМІ, размясціўшы на сваім сайце аўдыёзапіс размовы Мікіты Яраша з намесніцай начальніка аддзела па ідэалагічнай

працы Ірынай Бужан. З пракуратуры скаргу накіравалі на разгляд ў міліцыю. Тым часам рэдакцыя **“Ганцавіцкага часу”** атрымала ліст з Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, у якім патрабуюцца тлумачэнні адносна факту размяшчэння размовы М. Яраша з І. Бужан у адкрытым доступе ў інтэрнэце, з моманту якога прайшло ўжо амаль пяць месяцаў.

**11 лістапада** журналісты-фрылансеры **Кастусь Жукоўскі** і **Аляксей Атрошчанкаў** былі дастаўлены ў аддзяленне міліцыі ў горадзе Светлагорску Магілёўскай вобласці. Яны былі затрыманыя на цэнтральнай плошчы, калі здымалі яліны і арэхавыя дрэвы, спілаваныя гарадскімі ўладамі. Спачатку міліцыя падыйшла да журналістаў і папрасіла паказаць дакументы. Пасля праверкі маёр міліцыі, паведаміўшы, што яго прозвішча Вяжэвіч, падбег да журналістаў і загадаў ім яшчэ раз паказаць дакументы. Журналісты адказалі, што яны толькі што паказалі іх і няма ніякіх прычын, каб рабіць гэта зноў.

*«Маёр сказаў, каб мы прайшлі ў аддзяленне. Мы не супрацоўляліся. У аддзяленні ён паводзіў сябе неадэкватна: хапаўся за камеру, за руку, піхаў мяне, абражаў, намагаўся ўсяляк справакаваць. Я напісаў скаргу на гэткія дзеянні міліцыянта. Потым маёр завёў нас у нейкі куток і загадаў выкладваць усе рэчы. Мы сказалі, што зробім гэта толькі тады, калі будзе складзены пратакол асабістага агляду. Праз некаторы час маёра паклікалі, а два новыя міліцыянты, якія прыйшлі замест яго, склалі пратакол агляду»,* – распавёў Кастусь Жукоўскі.

Журналісты былі апытаныя; іх асабістыя рэчы былі агледжаныя міліцыяй. Прыкладна праз тры гадзіны знаходжання ў аддзяленні міліцыі яны былі вызваленыя.

**8 снежня** журналістаў незалежнай газеты «Наша ніва» **Мікіту Недаверкава і Ірыну Арахоўскую** затрымала міліцыя. Журналісты **здымалі акцыю** апазіцыйнай арганізацыі “Малады фронт”, удзельнікі якой развешвалі нацыянальныя сцягі ў цэнтры Мінска. Па словах журналістаў, нейкі чалавек падыйшоў да патрульнай машыны і ўказаў менавіта на іх. Маўляў, яны развешвалі сцягі. Аднак журналісты асвятлялі акцыю, у іх у руках была камера. Таксама супрацоўнікі міліцыі сцвярджалі, што журналісты не маюць права іх здымаць, бо гэта ўмяшальніцтва ў асабістае жыццё. Каля гадзіны журналісты правялі ў аддзяленні міліцыі, пасля чаго іх адпусцілі.

**15 снежня Аляксандр Лапшын**, расійска-ізраільскі блогер, быў затрыманы ў Мінску па запыце аб выдачы з Азербайджана. Ён быў затрыманы ў мінскім гатэлі неўзабаве пасля прыбыцця ў Беларусь. Першую ноч пасля затрымання Лапшына трымалі ў Першамайскім РУУС, потым змясцілі ў ізалятар на вуліцы Валадарскага.

Лапшын жыў у Маскве і пісаў на рускай мове ў папулярным блогу пра падарожжы. Ён знаходзіўся ў міжнародным вышуку па ініцыятыве Азербайджана з-за наведвання спрэчнага раёна Нагорнага Карабаха і за крытыку палітыкі ўладаў Азербайджана ў сваім блогу.

**17 студзеня 2017 г.** рашэнне аб экстрадыцыі Аляксандра Лапшына ў Азербайджан падпісаў намеснік генеральнага пракурора Беларусі Аляксей Стук. **26 студзеня** Мінскі гарадскі суд прызнаў законным гэтае рашэнне. **7 лютага** Вярхоўны Суд Беларусі пакінуў без задавальнення скаргу Лапшына на рашэнне Мінскага гарадскога суда, пасля чаго ён быў дэпартаваны ў Азербайджан.

## Фізічныя замахі ў адносінах да журналістаў

**25 студзеня** ў памяшканні суда Фрунзенскага раёна г. Мінска супрацоўнікі міліцыі затрымалі і збілі журналіста партала TUT.BY Паўла Дабравольскага.

Журналіст знаходзіўся ў судзе для асвятлення рэзананснага судовага працэсу. Ён фіксаваў на камеру мабільнага тэлефона працэс затрымання ў судзе двух актывістаў, якія трымалі плакат “Не – палітычнаму пераследу!”, і быў затрыманы разам з імі.

Супрацоўнікі міліцыі заштурхнулі Дабравольскага і двух актывістаў у суседні з залай суда пакой і збілі.

У Паўла Дабравольскага было пасведчанне журналіста, на якое ён марна спрабаваў звярнуць увагу супрацоўнікаў міліцыі. Пасведчанне забралі разам з мабільным тэлефонам.

У той самы дзень у адносінах да журналіста быў складзены пратакол аб адміністрацыйным правапарушэнні, і ў будынку таго ж суда П. Дабравольскі быў аштрафаваны суддзёй Марыяй Ярохінай на 9,45 мільёна беларускіх рублёў (каля 420 еўра) за “дробнае хуліганства” (арт. 17.1 Кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэннях) і “непадпарадкаванне законным патрабаванням пасадовых асобаў” (артыкул 23.4 КаАП).

У Паўла Дабравольскага засталіся гематомы на твары і целе, былі парваныя куртка і штаны. Журналіст зняў пабоі і падаў заяву ў Следчы камітэт РБ адносна дзеянняў міліцыі. Збіццё журналіста асудзілі АБСЭ і міжнародная праваабарончая арганізацыя “Рэпарцёры без межаў”.

**1 сакавіка** суддзя Мінскага гарадскога суда Валерый Камісараў **разгледзеў касацыйную** скаргу **Паўла Дабравольскага** адносна **інцыдэнту з затрыманнем і збіццём 25 студзеня** і пакінуў рашэнне Фрунзенскага раённага суда ў сіле.

**28 красавіка**, пасля праверкі на працягу трох месяцаў, Следчы камітэт Беларусі адмовіўся распачаць крымінальную справу па скарзе Паўла Дабравольскага. Следчы Сямён Піцко пагадзіўся з версіяй супрацоўнікаў міліцыі і прыйшоў да высновы, што прымяненне сілы імі было законным, бо Дабравольскі выглядаў як злачынца. Журналіст нібыта ўмешваўся ў дзеянні міліцыі, выкрыкваў абразы і схапіў іх за вопратку. Сляды збіцця на целе журналіста, лічыць следчы, магчыма, з'явіліся, калі афіцэры спрабавалі зафіксаваць яго ля сцяны і на падлозе. Запіс на мабільным тэлефоне Дабравольскага, зроблены ў пакоі, дзе яго збівалі, быў прызнаны Следчым камітэтам не маючым адносін да праверкі.

**12 красавіка,** калі ў Гомелі журналісты здымалі і фатаграфавалі пажар, які адбываўся на шпалернай фабрыцы “Фокс”, на іх нечакана накінуліся ахоўнікі прадпрыемства з палкамі і нецэнзурнай лаянкай. Яны сталі закрываць пажар з унутранага боку агароджы разгорнутымі шпалерамі і кідаць кіёчкамі, каб прагнаць аператараў. Журналістаў, якія ўлезлі на вароты, каб працягваць здымаць, білі па руках і камерах. Нягледзячы на агрэсіўнасць аховы, журналісты здолелі выканаць сваю работу.

**1 мая** лідар расійскага байкерскага руху "Начныя ваўкі" Залдастанаў раззлаваўся і штурхануў журналіста тэлеканала “Белсат” **Алеся Ляўчука**, які запытаўся, што той думае пра тое, што СССР на пачатку Другой сусьветнай вайны выступаў на баку Гітлера, напаў на Польшчу, краіны Балтыі і Фінляндыю.

**21 чэрвеня** журналіст-фрылансер **Кастусь Жукоўскі** быў жорстка затрыманы ў горадзе Лоеў Гомельскай вобласці (разам з аператарам **Аляксеем Атрошчанкавым**), калі яны здымалі мясцовы цагляны завод, каб зрабіць рэпартаж для тэлеканала “Белсат” пра стан эканомікі ў рэгіёнах Беларусі. Іх праца была раптоўна перарваная ДАІ, мясцовыя міліцыянты прыбылі пазней і гвалтоўна затрымалі журналістаў.

*"Міліцыя прыбыла і жорстка затрымала мяне і майго калегу Аляксея. Мы былі дастаўленыя ў аддзяленне міліцыі. Яны выхапілі абсталяванне з нашых рук, зламалі яго. Я быў збіты з ног на падлогу, мне надзелі кайданкі, прыціскалі каленам галаву; чалавек, які зрабіў гэта, назваў сябе намеснікам начальніка Генадзем Маджарам,"* – паведаміў БелаПАН Кастусь Жукоўскі. Журналіст таксама расказаў, што ён меў высокі крывяны ціск. Была выкліканая хуткая дапамога. Яе супрацоўнікі зрабілі яму ін'екцыю.

*“Калі ачуняў, запатрабаваў кнігу заўваг і прапанаваў, дзе апісаў усё, што адбылося,* – таксама распавёў Жукоўскі. – *На запіс у кнізе адрэагаваў прадстаўнік раённага аддзела Следчага камітэта, які ўзяў у мяне тлумачэнні і заяву пра інцыдэнт і выпісаў накіраванне на судова-медыцынскую экспэртызу. Нас трымалі ў РАУС каля шасці гадзін, а пасля адпусцілі. Пратаколаў не складалі. Калі я вярнуўся ў Гомель, то схадзіў на экспертызу, бо ў мяне моцна балелі шыя, плячо і падпухлі запясці рук”.*

Акрамя заявы ў Следчы камітэт, Кастусь Жукоўскі і Аляксей Атрошчанкаў падалі скаргу на імя начальніка абласной міліцыі, у якой указалі, што ў Лоеўскі РАУС іх даставілі без законных на тое падставаў і з прымяненнем гвалту. Аднак ніводная са скаргаў не мела выніку.

## Выняцце, пашкоджанне, канфіскацыя тэхнікі

**5 ліпеня** ў Брэсце міліцыянты канфіскавалі ноўтбук і мабільны тэлефон у вядомага блогера **Сяргея Пятрухіна**, які займаецца журналісцкімі расследаваннямі карупцыі дзяржаўных чыноўнікаў і сіл бяспекі і выкладвае відэа на сваім YouTube-канале «Народны рэпарцёр». Тры месяцы таму, у красавіку, Пятрухін апублікаваў відэа аб тым, як чыноўнік Камітэта дзяржаўнага кантролю нібыта незаконна атрымаў зямельны ўчастак у цэнтры горада ад старшыні гарвыканкама Брэста. Рэпартаж прывёў да ўзбуджэння крымінальнай справы. У маі блогер быў дапытаны міліцыяй пра чыйсці онлайн-каментар адносна службовай асобы Камітэта дзяржаўнага кантролю. Пасля расследаванне не вялося. Па меркаванні Сяргея Пятрухіна, расследаванне аднавілася пасля яго вылучэння ў парламент падчас выбарчай кампаніі.

**6 снежня** падчас арышту блогераў **Юрыя Паўлаўца** (у Мінску) **і Дзмітрыя Алімкіна** (у Брэсце), супраць якіх былі распачатыя крымінальныя справы за распальванне нянавісці (арт. 130 Крымінальнага кодэкса РБ) праз іх публікацыі на расійскіх сайтах Regnum, Lenta.ru, EADaily, у іх былі праведзеныя вобшукі і выняцце тэхнікі Следчым Камітэтам РБ.

**9 снежня** Следчы камітэт Рэспублікі Беларусь паведаміў аб арышце супрацоўніка расійскага сайта “Регнум” **Сяргея Шыптэнкі** ў межах расследавання крымінальнай справы па арт. 130 Крымінальнага кодэкса РБ. У яго дома таксама адбыліся вобшук і выняцце аргтэхнікі.

## Папярэджанні Міністэрства інфармацыі

2 сакавіка сайты nn.by (“Наша Ніва”) і ej.by (“Ежедневник”) атрымалі пісьмовыя папярэджанні Міністэрства інфармацыі за парушэнне закона аб СМІ. Інфармацыя пра гэта была размешчана на сайце міністэрства пад назвай “Закон аб СМІ трэба выконваць”. Сайт “Нашай нівы” быў папярэджаны за публікацыю «У Беларусі чырвоны ўзровень дэмаграфічнай небяспекі: штогод “вымірае” райцэнтр" – на думку Мініфарма, гэта дыскрэдытуе выніковасць дзяржаўнай дэмаграфічнай палітыкі. “Ежедневник” атрымаў папярэджанне за "дыскрэдытацыю ўзброеных сіл Рэспублікі Беларусь" – тэкст аб баявой гатоўнасці беларускай арміі суправаджаўся фотаздымкам нямецкай баявой тэхнікі часоў Другой сусветнай вайны.

10 жніўня Міністэрства інфармацыі Беларусі вынесла пісьмовыя папярэджанні шэрагу распаўсюднікаў прадукцыі тэлевізійных сродкаў масавай інфармацыі з-за парушэнняў заканадаўства аб СМІ і аўтарскім праве і сумежных правах. Як паведаміла Міністэрства, у чэрвені-ліпені 2016 г. былі праведзеныя планавыя маніторынгі дзейнасці аператараў электрасувязі ў Брэсцкай, Мінскай абласцях і Магілёве (ААТ "Брестоблгарант", ТАА "ТВСАТ", ТАА "Мир-ТВ", ТАА "Эфир-ТВ", ПУПТП "Сфера ТВ", ТАА "Норд", ТДА "Свет", ТАА "Цифра", ТАА "Гарант телевизионный коммунальный сервис", ТДА "Джем ТВ", ТДА "Электросвязь", ТДА "САТ-ТВ"). Па выніках праведзеных маніторынгаў былі выяўленыя парушэнні заканадаўства аб сродках масавай інфармацыі і аўтарскім праве і сумежных правах, у прыватнасці:

- недавядзенне абанентам шэрагам аператараў электрасувязі тэлепраграм, якія ўваходзяць у абавязковы агульнадаступны пакет тэлепраграм і невыкананне паслядоўнасці (чарговасці) іх трансляцыі (абавязковы агульнадаступны пакет тэлепраграм зацверджаны пастановай Савета Міністраў №407 ад 13 мая 2015 года);
- ажыццяўленне трансляцыі замежных тэлепраграм, якія не атрымалі дазволу для распаўсюд на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь;
- неўведамленне Міністэрства інфармацыі аб пачатку (спыненні) распаўсюду тэлепраграм;
- трансляцыя тэлепраграм эратычнага зместу без спецыяльнага кадавання.

У сувязі з парушэннямі ведамства вынесла пісьмовыя папярэджанні вышэйзгаданым аператарам электрасувязі.

26 снежня Міністэрства інфармацыі РБ вынесла пісьмовае папярэджанне незалежнаму інфармацыйна-публіцыстычнаму інтэрнэт-парталу «Витебский курьер» (vkurier.by) “за распаўсюд недакладнай інфармацыі, якая можа нанесці шкоду грамадскім інтарэсам”. У афіцыйным паведамленні на сайце міністэрства не ўдакладнялася, якая менавіта інфармацыя мелася на ўвазе.

31 снежня з адказу намесніка міністра інфармацыі на запыт ГА “БАЖ” стала вядома, што са студзеня па лістапад 2016 г. Міністэрства інфармацыі вынесла 15 папярэджанняў: 7 – сродкам масавай інфармацыі і 8 – інфармацыйным рэсурсам, якія распаўсюджваюцца з дапамогай глабальнай камп'ютарнай сеткі інтэрнэт. Усяго за 2016 г. Мініфарм вынес 16 папярэджанняў (8 – СМІ і 8 – інтэрнэт-рэсурсам).

Акрамя таго, у 2016 г. Міністэрствам інфармацыі былі прынятыя рашэнні аб абмежаванні доступу да 47 інфармацыйных рэсурсаў, да аднаго з якіх доступ быў адноўлены. 21 з гэтых рэсурсаў быў заблакаваны за распаўсюд інфармацыі, накіраванай на збыт наркатычных сродкаў, 13 – за распаўсюд экстрэмісцкіх матэрыялаў, 11 – за неналежную рэкламу, 2 – за прапаганду парнаграфіі, гвалту і жорсткасці.

## Абмежаванні свабоды дзейнасці ў Інтэрнэце

**15 лютага** не было доступу да сайта інфармацыйнага агенцтва **БелаПАН** з-за хакерскай атакі. Гэта была не першая хакерская атака на сайты інфармацыйнага агенцтва падчас грамадска значных падзеяў. Як адзначыла БелаПАН: “Гэта здарылася ў дзень, калі адбываліся важныя падзеі ў жыцці краіны: мітынг індывідуальных прадпрымальнікаў на Кастрычніцкай плошчы Мінска і пасяджэнне Савета ЕС у

Бруселі, на якім разглядалася пытанне пра зняцце санкцый з большасці беларускіх чыноўнікаў”.

**16 жніўня** з-за дзеянняў невядомых асобаў не працаваў сайт магілёўскай філіі праваабарончага цэнтра “Вясна” **mspring.online**. Па словах журналіста сайта Аляксандра Буракова (малодшага), хтосьці адмыслова спрабаваў заблакаваць доступ да сайта сістэмнаму адміністратару. Фактычна сайт быў цалкам зруйнаваны. Каб аднавіць работу сайта, спатрэбілася шэсць гадзін. Журналісты mspring.online звязвалі спробу перашкодзіць працы сайта з выбарамі ў Палату прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь. Фактычна іх сайт з’яўляўся адзіным незалежным вэб-рэсурсам у Магілёве, які рэгулярна даваў інфармацыю пра выбарчую кампанію.

**26 верасня** суд Цэнтральнага раёна Мінска прыняў рашэнне заблакаваць на тэрыторыі Беларусі сайт беларускай анархісцкай суполкі «Прамень» pramen.io, з-за быццам размешчаных на ім «экстрэмісцкіх матэрыялаў». «Сапраўднай жа прычынай ёсць тое, што наш сайт прадстаўляе альтэрнатыўны афіцыйнаму пункт гледжання на падзеі ў Беларусі і ў свеце, — адзначылі прадстаўнікі суполкі. — Яго блакаванне — заканамерны крок па знішчэнні дзяржавай любых непадкантрольных сродкаў інфармацыі».

## Парушэнні, звязаныя з доступам да інфармацыі

**26 студзеня** журналіст партала TUT.BY Павел Дабравольскі, які быў збіты міліцыяй падчас асвятлення судовага працэсу 25 студзеня, звярнуўся ў Дзяржаўны камітэт судовых экспертыз, каб зафіксаваць пабоі. Разам з ім ва ўпраўленне прыехалі журналісты **Кацярына Андрэева** і **Андрэй Рабчык**. Пры з’яўленні журналістаў супрацоўнікі ўстановы выклікалі міліцыянтаў. Міліцыянты забаранілі журналістам рабіць здымкі і ўвесь час, пакуль тыя знаходзіліся ў памяшканні, пільнавалі іх.

**31 сакавіка** журналістка незалежнай газеты "Intex-press” (Баранавічы) **Таццяна Некрашэвіч** атрымала адказ на сваю скаргу з прычыны адмовы чыноўнікаў дзяржаўнага Упраўлення капітальнага будаўніцтва прадастаўляць інфармацыю яе выданню. На працягу значнага часу журналісты гэтага незалежнага выдання не могуць дамагчыся інфармацыі ад Упраўлення капітальнага будаўніцтва адносна таго, што будзе пабудавана на месцы барака, які ўлады збіраюцца знесці, а жыхары не хочуць пакідаць. Галоўны інжынер Аляксандр Карпеня адмовіўся адказваць на пытанні журналісткі, у сувязі з чым яна і накіравала скаргу. Як паведаміла журналістка, дырэктар упраўлення Уладзімір Дронкін не адказаў нічога канкрэтнага на пытанні, якія знаходзяцца ў яго кампетэнцыі, парушаючы правы журналістаў на атрыманне інфармацыі. У той самы час ён актыўна супрацоўнічае з афіцыйнай дзяржаўнай газетай Баранавіцкага раёна.

**5 красавіка** карэспандэнт “Газеты Слонімскай” **Яўген Валадашчук** быў вымушаны пакінуць сход жыхароў вёсак Рахавічы і Сурынка Слонімскага раёна з-за настойлівых патрабаванняў прадстаўніка мясцовых уладаў. Карэспандэнт быў запрошаны мясцовымі жыхарамі на сход з удзелам старшыні Слонімскага раённага Савета дэпутатаў Сяргея Рагозіка, дзе абмяркоўвалі лёс мясцовага возера – пайшлі чуткі, што ўлады збіраюцца яго асушыць. Калі прыехаў старшыня райсавета Сяргей Рагозік, то першае, што ён зрабіў, — загадаў журналісту, які вёў здымкі, пакінуць сход. Матэрыялу для публікацыі ўжо хапала, і Яўген Валадашчук быў вымушаны пакінуць сход. Калі артыкул ужо быў апублікаваны на сайце gs.by разам з відэаролікам, і

чарговы нумар газеты адпраўлены ў друкарню, старшыня Сяргей Рагозік патэлефанаваў галоўнаму рэдактару "Газеты Слонімскай" Віктару Валадашчуку і запрасіў да сябе ў кабінет на размову. Там ён прасіў зняць матэрыял з друку, але рэдактар адмовіўся.

**12 красавіка,** калі ў Гомелі журналісты здымалі і фатаграфавалі пажар, які адбываўся на шпалернай фабрыцы "Фокс", на іх нечакана накінуліся ахоўнікі прадпрыемства з палкамі і нецэнзурнай лаянкай. Яны сталі закрываць пажар з унутранага боку агароджы разгорнутымі шпалерамі і кідаць кіёчкамі, каб прагнаць аператараў. Журналістаў, якія ўлезлі на вароты, каб працягваць здымаць, білі па руках і камерах. Нягледзячы на агрэсіўнасць аховы, журналісты здолелі выканаць сваю работу.

**20 красавіка** было паведамлена пра сістэматычныя перашкоды ў атрыманні інфармацыі рэдакцыяй газеты **"Борисовские новости"**. У рэдакцыі дапускаюць, што секвестр на інфармацыю, пра які настойліва згадваюць у прыватных размовах тыя, хто знаходзіцца ў залежнасці ад раённых уладаў, накладзены Барысаўскім райвыканкамам. Прыкладам такога стаўлення з'яўляецца адмова адказаць на пытанні карэспандэнткі газеты **Крысціны Стасёнак** з боку прадстаўнікоў Барысаўскай епархіі БПЦ Маскоўскага Патрыярхата. Пытанні тычыліся будоўлі Свята-Георгіеўскай праваслаўнай царквы па вуліцы Дымкі. Карэспандэнтка мела атрымаць каментары ў протаіерэя, настаяцеля храма Андрэя Шабалоўскага**.** Спачатку А. Шабалоўскі пагадзіўся даць інтэрв'ю, але папрасіў патэлефанаваць на наступны дзень, каб узгадніць месца і час. Назаўтра А. Шабалоўскі выбачыўся і сказаў, каб К. Стасёнак звярнулася па дазвол да царкоўнага кіраўніцтва. Кіраўніцтва ў асобе протадыякана Сергія Керко, выслухаўшы просьбу, таксама параіла звязацца з ім на наступны дзень. Прычына ўсё тая ж: трэба атрымаць дазвол ад вышэйшага кіраўніцтва, каб, у сваю чаргу, дазволіць настаяцелю храма А. Шабалоўскаму даць інтэрв'ю журналістцы. Урэшце Сергій Керко адмовіўся размаўляць з карэспандэнткай **"Борисовских новостей"**. "Вышэйшае начальства забараніла нам супрацоўнічаць з вашай газетай", – прыкладна такім быў вынік перамоваў, якія вяліся некалькі дзён. На пытанне, хто канкрэтна ўвёў забарону, протадыякан не адказаў. Тады Крысціна Стасёнак паспрабавала атрымаць неабходныя звесткі ў настаяцеля прыхода храма Раства Хрыстова протаіерэя Аляксандра Вярбілы. Менавіта ён у размове з карэспандэнткай і абмовіўся, што Барысаўскі райвыканкам "рэкамендаваў" не даваць недзяржаўнай газеце ніякай інфармацыі.

Таксама журналісты спрабавалі ўзяць інтэрв'ю ў інжынера Барысаўскага даследчага лясгаса Сяргея Анатольевіча пра нарыхтоўкі бярозавіку, але той адмовіўся адказваць на пытанні і параіў адправіць у яго арганізацыю афіцыйны запыт.

**У сакавіку** карэспандэнты газеты хацелі задаць некалькі пытанняў работніку палігона ЦКА (цвёрдых камунальных адкідаў). Аднак той параіў ужо добра вядомую журналістам схему: звярнуцца да яго непасрэднага начальства. Начальнік, у сваю чаргу, папрасіў зрабіць афіцыйны запыт на інтэрв'ю, каб узгадніць гэта з яшчэ больш высокім кіраўніцтвам.

Пра існаванне распараджэння, якое забараняе чыноўнікам даваць інтэрв'ю і каментары **"Борисовским новостям"**, казаў і былы раённы архітэктар Станіслаў Ткачэнка**.**

**13 мая** Міністэрства інфармацыі Беларусі адмовілася акрэдытаваць карэспандэнта і відэааператара незалежнай інфармацыйнай кампаніі БелаПАН на XI Беларускі міжнародны медыяфорум, які праводзіўся ў Мінску. Гэта пазбавіла БелаПАН магчымасці асвятляць мерапрыемства, паколькі журналісты без акрэдытацыі туды не дапускаліся. Атрымаць каментар у Міністэрстве інфармацыі наконт прычыны адмовы ў акрэдытацыі не ўдалося.

**16 мая** незалежнай газеце "Intex-Press" было паведамлена з раённага выканаўчага камітэта горада Баранавічы аб адмове акрэдытаваць яе карэспандэнта **Юлію Івашка.**

Афіцыйны ліст аб гэтым быў падпісаны намеснікам старшыні Аляксандрам Грыцкевічам. У ім паведамлялася, што райвыканкам не плануе пашыраць пералік выданняў, якія дапускаюцца для асвятлення яго пасяджэнняў; усе тры выданні, што дапускаюцца – дзяржаўныя.

**30 мая** рэдакцыя баранавіцкай газеты **"Intex-Press"** атрымала адказ на пісьмовы запыт, які ўтрымліваў пытанні адносна ўдзелу ў «адной з найважнейшых форм народаўладдзя ў Рэспубліцы Беларусь» – Усебеларускім народным сходзе. У лісце, падрыхтаваным кіраўніком аддзела арганізацыйна-кадравай работы Таццянай Чылік і кіраўніком аддзела ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі Святланай Паўловіч, большасць пытанняў незалежнай газеты, зададзеных у пісьмовым запыце, засталася без адказу.

**16 лістапада** ў судзе Партызанскага раёна Мінска разглядалася справа супраць лідэра апазіцыйнага «Маладога фронту» Змітра Дашкевіча. Карэспандэнтка **"Радыё Свабода"** была выдаленая з залі суда за спробу сфатаграфаваць чатырох супрацоўнікаў АМАП, якія затрымлівалі Дашкевіча і выступалі сведкамі. Фатаграфаванне не было забароненае, іншыя фота- і відэажурналісты засталіся ў зале.

**16 лістапада** здымачную групу "Белсата" не пусцілі на сустрэчу людзей з інваліднасцю з намеснікам старшыні Брэсцкага аблвыканкама Віктарам Сакоўскім. Група людзей з інваліднасцю, якія жывуць у непрыстасаваным для іх перасоўвання доме і даўно дамагаюцца ад мясцовых уладаў змянення сітуацыі, ініцыянавала сустрэчу з чыноўнікам і запрасіла на яе незалежных журналістаў. Аднак **Максім Хлябец**, **Алесь Ляўчук** і **Мілана Харытонава** не змаглі патрапіць на гэтую сустрэчу. Забарона зыходзіла ад начальніка аднаго з аддзелаў аблвыканкама Вольгі Верабей. Чыноўніца заявіла, што сустрэча мае асабісты характар і пакінула журналістаў за зачыненымі дзвярыма.

**5 снежня** начальнік Баранавіцкай гарадской ветэрынарнай станцыі Сяргей Мікалаеў адмовіўся даць карэспандэнту "Intex-press" фота скарпіёна, які ўкусіў пакупніка ў адной з крамаў Баранавіч. Журналістка "Intex-press" **Алена Зелянко** патэлефанавала Мікалаеву з просьбай прадставіць фотаздымак злоўленага скарпіёна для публікацыі. Аднак той адказаў, што здымкаў у яго няма – усе фота ён нібыта выдаліў. Праз некаторы час фотаздымкі, прадстаўленыя Мікалаевым, з'явіліся на сайце дзяржаўнай раённай газеты "Наш край".

**13 снежня** магілёўскага журналіста БелаПАН **Уладзіміра Лапцэвіча** не пусцілі ў будынак суда Кастрычніцкага раёна Магілёва, бо супрацоўнік аховы палічыў, што пасведчанне карэспандэнта інфармацыйнага агенцтва БелаПАН не з'яўляецца дакументам, якім можа засведчыць асобу. Уладзімір Лапцэвіч хацеў азнаёміцца са спісам судовых пасяджэнняў, прызначаных на 13 снежня.

**14 снежня Кастусю Жукоўскаму**, фрылансеру, які супрацоўнічае з "Белсатам", перашкаджала выконваць прафесійныя абавязкі мясцовая чыноўніца ў пасёлку Акцябрскім Гомельскай вобласці. Журналіст здымаў відэа пра дарагія аўтамабілі, якія мясцовыя чыноўнікі купілі за кошт бюджэтных сродкаў. У той час як Жукоўскі здымаў будынак мясцовай адміністрацыі, да яго падыйшла кіруючая справамі Валянціна Шлапакова, якая запатрабавала яго дакументы і забараніла здымаць будынак. Яна адштурхоўвала журналіста, хапала яго за камеру, за вопратку, патрабавала акрэдытацыю.

**14 снежня** Упраўленне ўнутраных спраў Брэсцкага аблвыканкама "зачыніла" аператыўную інфармацыю аб злачынствах, якія здзяйсняюцца ў вобласці. Калі раней

журналісты маглі даведацца пра інфармацыю аб правапарушэннях у рэгіёне з міліцэйскіх зводак, то ўжо з 14 снежня зводкі пачалі ўтрымліваюць толькі статыстыку. Прычым былі выдаленыя і папярэднія зводкі. Між тым, на сайтах УУС іншых абласцей яны па-ранейшаму даступныя. Паводле неафіцыйнай інфармацыі Службы маніторынгу ГА "БАЖ", зводкі прыбралі паводле асабістага распараджэння начальніка УУС Брэсцкага аблвыканкама Фёдара Балейкі. Магчыма, што ў гэтым адыграў сваю ролю шырокі рэзананс дарожна-транспартнага здарэння ў Ляхавіцкім раёне, калі п'яны выконваючы абавязкі кіраўніка ДАІ Баранавічаў да смерці збіў на аўтамабіле жанчыну.

**16 снежня** на судовым працэсе ў Магілёўскім абласным судзе журналістам забаранілі рабіць аўдыёзапіс па гэтак званай справе «чорных рыэлтараў», якіх абвінавачвалі ў шасці забойствах. Як паведаміў карэспандэнт інфармацыйнай кампаніі БелаПАН **Уладзімір Лапцэвіч**, супрацоўнік аховы прапусціў журналістаў у судовую залу пасля таго, як яны здалі сваю аўдыё, відэа, фотаапаратуру, а таксама мабільныя тэлефоны ў камеру захоўвання. Ён спаслаўся на загад суддзі Рыгора Качалава, які разглядаў справу. Адпаведна з беларускім заканадаўствам аўдыёзапіс у судзе не можа быць забаронены. Лапцэвіч зрабіў запіс у кнізе заўваг і прапанаваў пра парушэнне правоў журналістаў суддзём Качалавым.

## Парушэнні падчас выбараў у Палату прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь

Выбары ў Палату прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь адбыліся 11 верасня 2016 г.

**2 жніўня** супрацоўнікі міліцыі забаранілі журналісту-фрылансеру **Дзмітрыю Карэнку** весці здымкі ля ўваходу ў памяшканне Цэнтральнай выбарчай камісіі, што месціцца ў будынку беларускага ўраду. Журналіст збіраўся здымаць відэасюжэт, звязаны з апошнім днём падачы дакументаў на рэгістрацыю кандыдатаў у дэпутаты Палаты прадстаўнікоў. Аднак а 18 гадзіне ля ўваходу у ЦВК да Карэнкі падыйшлі супрацоўнікі міліцыі. Яны заявілі, што здымаць адміністрацыйныя будынкі ў Беларусі можна “толькі для навінаў” і папрасілі прад’явіць пасведчанне журналіста, якога ён як фрылансер не меў. Разбіральніцтва працягнулася больш за гадзіну, пасля чаго міліцыянты адпусцілі яго і параілі больш не здымаць адміністрацыйныя будынкі.

**10 жніўня** на пасяджэнні адной з акруговых выбарчых камісій у горадзе Барысаве Мінскай вобласці галоўны рэдактар незалежнай газеты “Борисовские новости” **Анатоль Букас** папрасіў даць для публікацыі ў газеце звесткі аб рэгістрацыі кандыдатаў у дэпутаты ніжняй палаты беларускага парламента. Павел Жуга, намеснік старшыні і кіраўнік спраў Барысаўскага райвыканкама, адказаў, што “не ведае такой газеты”. Скарга, накіраваная Букасам ў Цэнтральную выбарчую камісію, была адхіленая.

**16 жніўня** падчас паказу відэазапісу выступа кандыдата ад Аб'яднанай грамадзянскай партыі **Уладзіміра Няпомняшчых** у эфіры **гомельскага мясцовага тэлебачання** быў зменены лозунг, напісаны на яго адзенні. Няпомняшчых быў апрануты ў футболку з лозунгам “За Беларусь без Лукашэнкі”, калі яго зварот да выбаршчыкаў, гарантаваны выбарчым заканадаўствам, запісваўся тэлебачаннем. Тым не менш, у відэа, паказаным 16 жніўня, другая палова лозунгу была схаваная за экранным надпісам з імем кандыдата. Гэта дазволіла ператварыць лозунг у іншы: «За Беларусь», які Аляксандр Лукашэнка выкарыстоўваў на сваіх выбарах у 2010 г. Кандыдат палічыў, што тэлевізійшчыкі наўмысна схавалі частку надпісу, нагадаўшы,

што ў 2012 г. яго выступ наогул не пайшоў у эфір, а фотаздымак у такой футболцы не прымалі для агітацыйных плакатаў.

**17 жніўня** рэгіянальная газета **«Вечерний Брест»** адмовілася друкаваць передвыбарчую праграму кандыдата ў дэпутаты Палаты прадстаўнікоў ад Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Грамады) **Ігара Маслоўскага**. Падставай для адмовы стаў яго заклік да выбаршчыкаў не падтрымліваць кандыдатаў ад улады. У прыватнасці, у праграме кандыдата гаворыцца: "Не падтрымлівайце на выбарах лекараў, ваенных і іншых добрых людзей – яны кандыдаты ад улады. Усе яны добрыя людзі, пакуль на сваім месцы, але ўсе яны залежныя ад начальства і ператвараюцца ў «дрэнных» дэпутатаў! Гэтыя "добрыя" людзі галасуюць за тое, што ім скажуць. Менавіта з іх маўклівай згоды павысілі пенсійны ўзрост, пазбавілі стажу тых, хто служыў у арміі, быў у дэкрэтным адпачынку, вучыўся ва ўніверсітэце і г.д. Менавіта яны падтрымалі падатак на беспрацоўных і нічога не зрабілі для стварэння новых працоўных месцаў». Па словах Маслоўскага, як вынікае з адказу, падпісанага выконваючай абавязкі рэдактара газеты, гэта «можа быць расцэнена як абраза ў адрас людзей розных прафесій».

**20 жніўня** газета **"Астравецкая праўда"** адмовілася публікаваць передвыбарную праграму кандыдата ў дэпутаты ад Аб'яднанай грамадзянскай партыі **Мікалая Уласевіча**, нягледзячы на тое, што ў адпаведнасці з заканадаўствам Рэспублікі Беларусь усе кандыдаты маюць права на роўны доступ да дзяржаўных СМІ падчас выбарчай кампаніі. Як паведаміў Уласевіч на сваёй старонцы ў "Фэйсбуку", у рэдакцыі газеты палічылі, што яго передвыбарная праграма не адпавядае патрабаванням, выкладзеным у арт. 47 і арт. 75 Выбарчага кодэкса. Гэтыя артыкулы вызначаюць, што передвыбачая праграма не павінна ўтрымліваць "прапаганды вайны, заклікаў да гвалтоўнай змены канстытуцыйнага ладу, парушэння тэрытарыяльнай цэласнасці Рэспублікі Беларусь, да сацыяльнай, нацыянальнай, рэлігійнай і расавай варожасці, заклікаў, якія падахвочваюць або якія маюць на мэце заахвочванне да зрыву, або адмены, або пераносу тэрміну выбараў, прызначаных у адпаведнасці з заканадаўчымі актамі Рэспублікі Беларусь, а таксама абразаў і паклёпу ў дачыненні да службовых асобаў Рэспублікі Беларусь, іншых кандыдатаў у прэзідэнты Рэспублікі Беларусь, у дэпутаты". У сваёй праграме, апублікаванай у Facebook, Уласевіч выступіў супраць будаўніцтва АЭС у Беларусі і апавядаў аб праблеме карупцыі ў краіне. На думку Уласевіча, ён не парушаў нормаў Выбарчага кодэкса, які не прадугледжвае цэнзуры праграм кандыдатаў у дэпутаты.

**22 жніўня** газета **"Вечерний Минск"** адмовілася апублікаваць передвыбарчую праграму актывіста апазіцыі і тэлевядучага "Белсата" **Юрыя Хашчавацкага**. Галоўны рэдактар "Вечернего Минска" Сяргей Протас напісаў, што передвыбарчая праграма "не можа быць апублікаваная, бо яна не адпавядае патрабаванням артыкулаў 47 і 75 Выбарчага кодэкса Рэспублікі Беларусь". Аднак рэдактар не пазначыў, якія выразы Хашчавацкага парушалі закон. Па словах Юрыя Хашчавацкага, рэдактару маглі не спадабацца некаторыя яго словы пра прэзідэнта Лукашэнку.

**26 жніўня Гродзенскае абласное дзяржаўнае тэлебачанне** не выпусціла ў эфір зварот да выбаршчыкаў кандыдата ў дэпутаты Палаты прадстаўнікоў ад Аб'яднанай грамадзянскай партыі **Мікалая Уласевіча**. Мікалай Уласевіч – ініцыятар грамадскай ініцыятывы "Астравецкая атамная – гэта злачынства". У сваім тэлезвароце да выбаршчыкаў, які быў запісаны, але не выйшаў у эфір у запланаваны час, Уласевіч выступіў супраць будаўніцтва ў Беларусі атамнай электрастанцыі, а таксама закрануў праблему карупцыі. Паводле беларускага заканадаўства, усе кандыдаты павінны мець роўны доступ да дзяржаўных сродкаў масавай інфармацыі.

**11 верасня,** у дзень выбараў у парламент, карэспандэнту незалежнай газеты "**Наша Ніва"** забаранілі фатаграфаваць на выбарчым участку, дзе павінен быў

галасаваць прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка. Ахоўнікі ў цывільным матывавалі гэта тым, што ён не быў акрэдытаваны як фатограф.

## Іншыя формы ціску і парушэння правоў журналістаў і СМІ

**11 лютага** КДБ намагалася аказаць ціск на мантажыста тэлеканала СТВ **Аляксандра Шымко**, пагражаючы звальненнем і ўнясеннем у "чорны спіс", каб прымусіць яго прызнацца ў супрацоўніцтве з польскім “Белсат”. Чалавек у цывільным, які прадставіўся як "супрацоўнік дзяржбяспекі" Андрэй Андрэевіч, наведаў Аляксандра Шымко на працы. Пагражаючы, ён запатрабаваў, каб Аляксандр прызнаў, што працаваў на “Белсат” і надалей інфармаваў КДБ пра ўсю яго працу. Наступнай раніцай "Андрэй" чакаў Аляксандра Шымко на вуліцы і спрабаваў прымусіць яго пайсці ў КДБ для праходжання праверкі на дэтэктары хлусні. Мантажыст адмовіўся ісці без позвы – тады супрацоўнік КДБ даў яму падпісаць дакумент, абавязваючы прыйсці ў КДБ.

**12 лютага Радаславу Дамброўскаму**, журналісту “Беларускага Радыё Рацыя” (Польшча), у чарговы раз адмовілі ў беларускай візе. Журналіст збіраўся ў Мінск, каб наведаць канцэрт удзельнікаў музычнага фестываля “Басовішча”. Дамброўскаму патэлефанавалі з беларускага консульства ў Беластоку і папрасілі забраць дакументы без тлумачэння прычын, заявіўшы, што ў адваротным выпадку яму зноў паставяць штамп "Уезд забаронены". У чэрвені 2015 г. Радаслаў Дамброўскі таксама спрабаваў наведаць Беларусь у фармаце бязвізавага рэжыму разам з турыстычнай групай з Польшчы. На памежным пераходзе яму паставілі ў пашпарт штамп пра забарону ўезду. Раней Дамброўскаму адмовілі ў беларускай візе ў кастрычніку 2013 г., калі ён збіраўся на кінафестываль “Лістапад”.

**28 сакавіка** стала вядома, што журналіст **Васіль Сямашка**, як ён сцвярджае, быў звольнены з прадстаўніцтва расійскага інфармацыйнага рэсурсу «Спутник» у Мінску пасля публікацыі на сайце “Радыё Свабода” яго інтэрв’ю пра паездку на акупаваную частку Данбаса пад назвай **«У ДНР людзей катуюць? А ў менскай міліцыі людзей не катуюць?»**. Кіраўнік прадстаўніцтва Андрэй Качура пракаментаваў заяву журналіста, заявіўшы, што той ніколі не быў у штаце, а прыцягваўся да супрацоўніцтва час ад часу.

**29 красавіка** гомельскі журналіст-фрылансер **Кастусь Жукоўскі** атрымаў патрабаванне ад Інспекцыі міністэрства па падатках і зборах па Цэнтральным раёне Гомеля даць тлумачэнні адносна крыніц даходу за пяць мінулых год. У лісце за подпісам намесніцы начальніка інспекцыі Евы Зубрэй сцвярджалася, што пры супастаўленні даходаў і расходаў выяўлена перавышэнне расходаў над даходамі за апошнія тры гады ў памеры 31,9 мільёна рублёў. Жукоўскі палічыў, што такое патрабаванне з’яўляецца яшчэ адной з перашкодаў яго журналісцкай дзейнасці з боку ўладаў, паколькі ён кожны год своечасова падаваў дэкларацыі пра асабістыя даходы, якія адпавядаюць ягоным выдаткам.

**21 чэрвеня** аўтамабіль са здымачнай групай **“Белсата”** быў заблакаваны на выездзе з рынку Лябяжы пад Мінскам. Кіраўніцтва рынку выклікала міліцыю, каб затрымаць журналістаў. Здымачная група суправаджала лідэра пратэстаў прадпрымальнікаў Анатоля Шумчанку, які прыбыў на рынак, дзе цягам тыдня ажыццяўляліся праверкі і канфіскацыі. Журналісты “Белсата” асвятлялі сітуацыю. Ахоўнік рынка сказаў, што Валер Зайцаў, намеснік дырэктара рынка Лябяжы, загадаў заблакаваць машыну прадпрымальніка на выездзе. Журналісты таксама знаходзіліся ў

аўтамабілі; прычыны блакавання ім не тлумачыліся. Пазней прыбыла міліцыя. Кіраўніцтва рынка запатрабавала, каб Шумчанка і журналісты былі дастаўленыя ў аддзяленне міліцыі і абшуканыя. Тым не менш, запісаўшы асабістыя дадзеныя Шумчанкі, міліцыянты адпусцілі іх.

**15 верасня** відэааператара-фрылансера **Аляксея Атрошчанку** пераследаваў аўтамабіль, які наехаў на яго падчас здымак у горадзе Нароўля Гомельскай вобласці. Атрошчанка разам з журналістам **Канстанцінам Жукоўскім** здымалі сюжэт пра эканамічнае становішча ў горадзе. Дзве машыны пераследавалі іх у Нароўлі: Mercedes, якім кіравала першы намеснік старшыні нараўлянскага райвыканкама Наталля Коваль, і Audi. Калі Атрошчанка выйшаў і пачаў здымаць пярэднюю частку першага аўтамабіля, каб зафіксаваць нумарны знак, кіроўца завяла машыну і паехала, нягледзячы на тое, што яна бачыла, што ён стаіць наперадзе. Яна ўдарыла яго ў калена, і ён пахіснуўся. Журналісты патэлефанавалі ў міліцыю. Калі Жукоўскі *запытаў Коваль, чаму за імі сочаць, тая адказала, што гэта ейная праца. П*асля інцыдэнту журналісты адправіліся ў РАУС. Аляксей Атрошчанка напісаў заяву.

**29 верасня** аўтары “Белсата” **Ларыса Шчыракова** і **Кастусь Жукоўскі** выклікалі цікавасць з боку ваеннай контрвыведкі КДБ Беларусі. Калі Яўген Меркіс, старшыня гомельскага краязнаўчага аб'яднання “Талака”, прыйшоў у абласны выканкам, каб высветліць шэраг пытанняў, звязаных з арганізацыяй, афіцыйныя асобы сказалі яму, што хтосьці хоча пагаварыць з ім у суседнім пакоі. Там быў чалавек, які назваў сябе Аляксандрам і пацвердзіў што працуе ў КДБ. Ён прымусіў Меркіса правесці шмат часу ў пакоі, задаваў пытанні аб дзейнасці “Талакі” і перашкаджаў яму рабіць здымкі. Нарэшце, «Аляксандр» праявіў асаблівую цікавасць да сябраў “Талакі” – незалежных журналістаў Ларысы Шчыраковай і Кастуся Жукоўскага. Ён распытваў, ці працуюць яны на “Белсат”.

**2 кастрычніка** расійскі тэлеканал НТВ па**жартаваў з Лукашэнкі**. Вядучы “Міжнароднай пілараммы” Тыгран Кеасаян назваў Лукашэнку адзіным чалавекам у свеце, здольным сілай слова сапсаваць малако. "Толькі ён што заявіць, адразу беларускае малако ў Расіі прызнаюць сапсаваным і забараняюць", — прагучала ў перадачы, але з эфіру “**НТВ-Беларусь”** менавіта гэты фрагмент быў выразаны. Сябра ГА “БАЖ” Барыс Гарэцкі звярнуўся ў Белтэлерадыёкампанію з просьбай распавесці, на падставе якіх дакументаў адбываецца цэнзураванне перадач НТВ. У адказе дырэктар тэлеканала “НТВ-Беларусь” Маргарыта Чыстасердава паведаміла, што канал дзейнічае ў адпаведнасці з заканадаўствам, у тым ліку Законам “Аб СМІ”. Пазней сатырычная праграма “Міжнародная пілараама” была ўвогуле знятая з эфіру. Апошні раз на “НТВ-Беларусь” перадачу паказалі 30 кастрычніка.

# ЭКАНАМІЧНАЯ ПАЛІТЫКА Ў СФЕРЫ СМІ

**14 красавіка** стала вядома, што галоўны рэдактар **“Газеты Слонімскай”** і **“Отдушины”** Віктар Валадашчук атрымаў чарговыя адмовы на свае звароты ў РУП “Белпошта” і ГРУП “Белсаюздрук” аб уключэнні слонімскіх недзяржаўных выданняў у падпісны каталог “Белпошты” і сістэму распаўсюду праз кіёскі “Саюздруку” на другое паўгоддзе 2016 г. На свае запыты пра вяртанне газеты ў дзяржаўную сістэму распаўсюду галоўны рэдактар атрымлівае адказы-адмовы, напісаныя нібыта пад капірку. Так адбываецца пачынаючы з 2006 г., калі пасля прэзідэнцкіх выбараў “Газету Слонімскую”, як і шэраг іншых выданняў, выключылі з падпіскі на пошце і з распаўсюду праз газетныя кіёскі.

Віктар Валадашчук звяртаўся з запытам у Міністэрства сувязі і інфарматызацыі і Міністэрства інфармацыі. Ён спрабаваў высветліць, што яму як выдаўцу і галоўнаму рэдактару трэба зрабіць, каб “Газета Слонімская” і “Отдушина” патрапілі ў падпісны каталог і кіёскі, на што атрымаў адказ, што ў выпадку нязгоды з дзеяннямі РУП “Белпошта” ён мае права звярнуцца з позвай у суд. Звяртацца ў суд, як тое раіць Мінсувязі, Віктар Валадашчук не бачыць сэнсу, бо лічыць, “*што гэта пытанне палітычнай волі, а не справа суб’ектаў гаспадарання”*.

**24 чэрвеня** РУП «Белпошта» ў чарговы раз адмовілася ўключаць у падпісны каталог на II паўгоддзе 2016 г. баранавіцкае незалежнае выданне **«Intex-press».** «Белпошта» не супрацоўнічала з **«Intex-press»** з 2008 г. Аднак у гэтым годзе, здавалася, сітуацыя зрушыла з мёртвай кропкі. **1 чэрвеня** рэдакцыя накіравала ліст у Брэсцкі філіял РУП «Белпошта». Праз пэўны час у рэдакцыю патэлефанавалі яго спецыялісты і ўдакладнілі, у які аддзел каталога выданне хацела б патрапіць – рэспубліканскіх ці раённых выданняў. Сказалі таксама чакаць, калі выданне атрымае індэкс. Але пазней у рэдакцыю прыйшоў ліст з галаўнога офіса «Белпошты» ў Мінску, куды рэдакцыя нават не звярталася. У лісце за подпісам намесніка генеральнага дырэктара Генадзя Дзям'яненкі рэдакцыю апавясцілі, што *“абавязак па ўключэнні ў каталог не прадугледжаны заканадаўствам, выбар друкаваных выданняў для фармавання каталога з мэтай далейшага іх распаўсюду праз падпіску з'яўляецца правам РУП “Белпошта””* і што *“патрабаванні па заключэнні дамовы і ўключэнні выдання ў каталог не заснаваныя на нормах заканадаўства”.*

**26 кастрычніка,** згодна з Законам Рэспублікі Беларусь "Аб рэспубліканскім бюджэце на 2017 год", на дзяржаўныя СМІ было выдзелена больш за 47 мільёнаў еўра. Гэта на 3 млн еўра больш чым у 2016 г. Такім чынам, у наступным годзе з дзяржаўнага бюджэту Беларусі будзе выдаткавана:

- на тэлебачанне і радыёвяшчанне — 39 млн еўра;
- на перыядычны друк і выдавецтвы — 3,4 млн еўра;
- на “іншыя пытанні ў галіне сродкаў масавай інфармацыі” — 4,9 млн еўра.

**26 кастрычніка** пракуратура Лідскага раёна адказала на зварот ГА “Беларуская асацыяцыя журналістаў” адносна распараджэння мясцовых уладаў аб падпісцы на дзяржаўныя выданні. У верасні ў прэсу патрапіў **ліст** Лідскага райвыканкама да кіраўнікоў прадпрыемстваў і арганізацый раёна. У ім улады звярталі ўвагу кіраўнікоў прадпрыемстваў “*на неабходнасць прыняцця мер па правядзенні падпісной кампаніі на 4 квартал на выданні “Советская Белоруссия”, “Рэспубліка”, “Звязда”, “Гродзенская праўда”, “Лідская газета” і іншыя...”* Колькасць выпісаных выданняў павінна складаць не менш за 50 % ад колькасці працаўнікоў прадпрыемства, — адзначалася ў дакуменце.

ГА “Беларуская асацыяцыя журналістаў” убачыла ў дадзеным факце парушэнне роўных эканамічных умоваў для дзяржаўных і недзяржаўных друкаваных СМІ і звярнулася ў пракуратуру з просьбай праверыць законнасць патрабаванняў мясцовых уладаў. У выніку разгляду заявы ГА “БАЖ” пракуратура Лідскага раёна паведаміла, што ліст кіраўнікам прадпрыемстваў са словамі “неабходна забяспечыць” і “павінна складаць” насіў рэкамендацыйны характар.

**8 снежня** ГРУП "Брэстаблсаюздрук" паведаміла, што "не мае магчымасці заключыць дамову на распаўсюд газеты **“Intex-press**", у чарговы раз адмовіўшы незалежнаму выданню ў распаўсюдзе.